PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2002) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 25 ВЕРАСНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



## Захаваць вёску ад забыцця

**Уладзімір Наўмюк**

разбяр з Канюкоў (на здымку) зараз працуе над фігуркамі „ільяшоўцаў". Скульптурныя партрэты Ільі Клімовіча, Паула Бельскага, Аляксандра Давідзюка ці Васіля з Рыбалаў зроблены паводле старых фатаграфій.

— У нашай вёсцы таксама быў „ільяшовец", таму тэма гэтая знаёмая мне не толькі з апавядаў. Наведаў я таксама Грыбоўшчыну, сям'ю Валошыных і мае ўяўленні неяк пашырыліся, — гаворыць разбяр.

Фігуркі сектантаў побач фатаграфічнага падабенства моцна выяўляюць мастацкі індывідуалізм Наўмюка. Воблікі „святых" фанатычныя і суровыя, аднак не пазбаўлены мужыцкай няўпэўненасці і разгубленасці. Фігуркі вылучаюцца таксама характэрнымі позамі, у якіх яскрава відавочны кантраст паміж духоўным і матэрыяльным светаадчуваннем герояў. Працы паедуць у шырокі свет разам з беластоцкім тэатрам „Вершалін".

— Але гэтая творчасць нетыповая, — паясняе мастак, — свае працы я хацеў бы мець блізка сябе. Калі аддаю нейкую фігурку, адчуваю трывогу, падобную суму па страце блізкага чалавека.

Многія скульптуры маюць асабісты, сямейны характар.

### „Бабуля з хлопчыкам"

— гэтая разьба мае свой хвалюючы адбітак у біяграфіі Уладзіміра Наўмюка. Нарадзіўся ён у 1935 годзе. У раннім маленстве асірацеў. Бацька разам з 28 сялянамі з Канюкоў згарэў жыўцом у падпаленай немцамі клуні, маці памерла на сухоты. Адзінаццацігадовым хлапчуком і ягонымі братамі апекаваліся бабка і дзядзька. Трэба было ісці ў пастушкі. Дарога гэтая запаміталася яму на ўсё жыццё. Вёска Паўлы, хаця і суседняя, але ж не свая і людзі чужыя. На край дарогі праводзіла бабка.

„Ідзі, нэхай тэбэ людэ учат", — і пачала плакаць над сірочай доляй.

Хлопчык суцяшальна дакранае руку бабулі і просіць:

„Нэ бідуйтэ, будэ добрэ, бабко".

— Калісь, пасылаючы дзіця „ў людзі", была надзея. Сёння свет не той, адправіць дзіця „ў людзі" небяспечна, часта раўнецца гэта з утратай роднага назаўсёды, — дадае мастак.

### „Вясковыя мадонны"

— самы эмацыянальны і эстэтычны цыкл у творчасці Наўмюка. Фігуркі жанчын з немаўляткамі выпраменьваюць сілу, якая нараджаецца толькі разам з дзіцём. Мацярынства мае воблік захаплення, апекі і абароны. Фігуркі ззяюць дабрынёй і трывогай, вылучаюцца сваёй паэтычнасцю, быццам створаны яны паводле Багдановічавых „Беларускіх мадоннаў".

— У мяне засталося святое разуменне мацярынства. На маці давялося глядзець вачыма асірацелага дзіцяці, — кажа мастак.

Частым матывам з'яўляецца постаць старой жанчыны.

— Бабка была самым сардэчным і цёплым чалавекам. Яна не раз суцяшала дзіцячыя слёзы і ахоўвала ад зла, — кажа ён.

Сярод жанчын — бабулек, маладзіц і дзяўчат — шырокі эстэтычна-этычны дыяпазон: свежая, задуменная ў сваёй красе маладосць, працавітая, настойлівая сталасць, змучаная надзея спелай старасці. Фігуркі дабрадушных сумных, запрацаваных жанчын кантрастуюць з воблікамі вясёлых і шэльмаватых цётак. Усе яны насычаны моцнай экспрэсіяй.

Праз вобразы мужчын часта прабіваецца матыў

### легендарнага дзеда Лявона.

Дзед, як адзіны з вёскі не кінуўся ў бежанства. Зацяўся і не паехаў. Сённяшняя майстэрня — гэта якраз хата, пабудаваная гэтым дзедам.

Настойлівы дух дзеда праўдападобна пасяліўся ва Уладзіміру Наўмюку. Як адзін з нямногіх застаўся ён у вёсцы і сумеў знайсці сэнс жыцця.

— Калі вярнуліся людзі з бежанства, усе пасяліліся ў нашай хаце. У хаце жыло шмат сем'яў, людзі былі згодныя і ўсім дзяліліся. А і пазней, як памятаю, выйдзем на вуліцу, то зараз ней-

*Працяг на стар. 8*

*Настаўнікам, Выпускнікам і Вучням Бельскага Агульнаадукацыйнага Ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча з нагоды 50-годдзя заснавання Іх школы найлепшыя пажаданні выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".*

## МАЦІ — НЕ ПАМРЭ, МАЦІ — БУДЗЕ ЖЫЦЬ ВЕЧНА!

**Слова народнага паэта НІЛА ГІЛЕВІЧА на ўрачыстым вечары ў гонар Свята беларускага пісьменства і друку 2 верасня 1994 г.**

Паважаныя таварышы, сябры беларускага пісьменства і друку! Для Свята, якое святкуецца намі ўпершыню і якое, спадзяюся, стане традыцыйным, падстаў у нас дастаткова.

Яшчэ добрую тысячу гадоў назад пачало пашырацца на нашай зямлі пісьменства, усталёўвацца і развівацца кніжная культура. Яшчэ ў часы Полацкага і затым Тураўскага княстваў, у часы Рагнеды і Усяслава, Еўфрасінні Полацкай і Кірыла Тураўскага. І ўжо тады гэта было сведчаннем прыроднай цягі нашых далёкіх прашчураў да асветы, да ведаў, да духоўнасці. Вядома, на пачатку, цягам цэлых стагоддзяў, станаўленне пісьменства і кніжнай справы на Беларусі адбывалася ў рукапіснай форме, з дапамогаю перапісчыкаў. З пачатку 16 ст., дзякуючы генію Францыска Скарыны — рукапісы кніг пачалі друкавацца на друкарскіх варштатах і тыражыравацца ў вялікай колькасці асобнікаў сярод шырокага люду паспалітага. Кніжнасць набывае ўсё больш свецкі характар.

Узнікненне беларускага кнігадрукавання — падзея такой гістарычнай важнасці, значэнне якой цяжка пераацаніць. Гэта быў вялізны крок наперад у пашырэнні пісьменства і адукацыі, асветы і культуры. Здзіўляюць размах і маштабы кнігавыдавецкай дзейнасці ў тагачаснай нашай дзяржаве. Колькі людзей далучылася да пачатага Скарынай подзвігу, — людзей, якія зразумелі, што гэта за цуд — кніга, які гэта магутны сродак для развіцця асветы і навукі, для развіцця промыслаў, для ўздыму дабрабыту, і вядома ж — для маральнага і духоўнага выхавання людзей, сваіх суайчыннікаў. Міжволі пачынаеш думаць пра закладзеныя Богам таленты ў самой прыродзе беларусаў...

Ці шмат краін у Еўропе, ды і ў цэлым свеце, дзе б яшчэ ў 16—17 ст. было столькі друкарань, колькі іх было ў Вялікім княстве Літоўскім, на этнічна беларускай тэрыторыі, уключаючы і тыя спаконвечна нашы землі, якія пазней крывавымі перакройшчыкамі карты свету былі адрэзаны ад Беларусі?.. Мала такіх краін можна назваць, мала, шаноўныя суайчыннікі, — краін, якія б параўналіся з Беларуссю ў развіцці кнігадрукавання. Ужо ў тыя часы на Беларусі пры манастырах, храмах, а перш за ўсё ў маёнтках буйных землеўласнікаў і ў дамах багатых гараджан існавалі тысячы бібліятэк, сярод якіх былі і такія кніжныя зборы, якія ўпрыгожылі б сталічныя і універсітэцкія гарады вялікіх еўрапейскіх дзяржаў! Дык чаму б і не паганарыцца сёння? А галоўнае — чаму б не давесці гэту ісціну да ўсяго народа нашага?..

На Беларусі складваўся і ўмацоўваўся культ Кнігі, куль асветы і адукацыі. Неспрыяльны гістарычны лёс у наступных стагоддзях вельмі перашкодзіў яго ўзвышэнню. І аднак жа, насуперак усім злым сілам, ён заставаўся жыць у ду-

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Tradycyjnie już pierwszy dzień września młodzież przeznaczyła na spotkania towarzyskie. Setki uczniów wylegają na ulice miasta by udać się do parku lub kawiarni. Jest to doskonały pretekst do upijania się. Już od godziny 10 uczniowie szkół średnich zapełnili niemal wszystkie ławki w parku, tłoczno było w kawiarniach z piwem i delikatesach przy stoisku z alkoholem, skąd dziesiątki butelek transportowano do leżącego opodal parku. W zawodach piwnych już z oddali było słychać soczyste przekleństwa. Dominowali fani death metalu, ale sporo było takich, którzy osiągnęli stan zamroczenia alkoholowego bez żadnej podbudowy ideologicznej.*

*(Kurier Poranny, nr 184)*

Найважнейшае — гэта добры пачатак. Беластоцкія вучні пачалі няблага. Школьны год павінен таксама прайсці паспяхова.

* * *

*Prowokacje, podsłuchy telefoniczne, naruszenie tajemnicy korespondencji — wszystko to proponuje rząd w ustawach policyjnych.*

*(Polityka, nr 37)*

Хопіць гэтай дэмакратыі. Нацешыліся ўжо ёю за апошнія 5 гадоў. Час вяртацца да нармальнасці. Грамадзянін, якога хтосьці трымае „за морду", ведае прынамсі сваю вартасць.

* * *

*Беларусы як нацыя ў Польшчы ўжо зьнікаюць. Застаюцца толькі адзінкавыя асобы, а дзяржава Беларусь гэтым нават і не цікавіцца.*

*(Пагоня, н-р 28)*

Калі правадыры не цікавяцца тым, ці будуць беларусы ў Беларусі, дык чаму ж маюць яны цікавіцца, ці будуць яны за яе межамі?

* * *

— Вы будете выступать за объединение Беларуси и России в единое государство?

— *Я не только сторонник единения двух государств, России и Беларуси, я сторонник единения славянских народов. Это ядро, вокруг которого могут объединиться и все народы бывшего Советского Союза.*

— Значит, вы сейчас как Президент Беларуси готовы во всеуслышание заявить: белорусский народ выступает за воссоединение с Россией?

— *Да, наш народ выступает за воссоединение с Россией. Даже не понимаю, какие могут быть издержки этого объединения, настолько в кровь, в плоть народа вошло понятие братства и дружбы русского и белорусского народов,* — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

*(Известия, н-р 201)*

* * *

*Сітуацыя ў краіне ўсё больш абвастраецца, эканамічны крызіс паглыбляецца. Прэзідэнцкая каманда да гэтага часу не прадставіла ніякай праграмы эканамічнай адбудовы Беларусі. Няма, дарэчы, ніякай новай каманды. Усе кебічаўскія „рэфарматары" засталіся на сваіх пасадах. Супрацьдзеянне бюракратычнага апарату, на які ён абапёрся, не меншае, чым уплыў прэзідэнта на гэты апарат. І што тут робіць прэзідэнт? Дык тое ж, што раней рабіў Кебіч — гаворыць больш пра Расію, чым пра Беларусь, а ўсе няўдачы спісвае на „дэмакратаў". Дэмакраты ж у Беларусі, па вызначэнню прэзідэнта — гэта тыя, хто выступае супраць наладжвання добрых адносін Беларусі з Расіяй. Дэмакраты гэта, паводле прэзідэнта, адначасова ворагі Беларусі і Расіі. Пачаўся пошук вінаватых на выпадак няўдачы ў рэфармаванні краіны,* — сказаў дэпутат Вярхоўнага Савета ад БНФ Валянцін Голубеў.

*(Народная газета, 1.09.1994 г.)*

* * *

*За першае паўгоддзе сёлета ў Гарадзенскай вобласці выпуск харчовых тавараў скараціўся на 24%. Тым часам піва, віна і гарэлкі выпусцілі на 38,7% больш. Гарэлкі ўсё больш, закускі ўсё менш,* — каменціруе

*Свабода (н-р 31).*

* * *

*Polska nie musi się ciągle reformować — tę odkrywczą myśl wyraził nasz nowy premier, przed otwarciem nowej siedziby Urzędu Gminy w Kleszczowie. Tak mógł przemawiać Gomułka na V Zjeździe PZPR w 1968 r. Ale z pewnością nie powiedziałby: dość reformy, użyłby słów o usprawnieniu gospodarki, że plan trzeba budować od dołu a nie od góry! Pawlak mówi wprost to co myśli. Rozmawia z myślącymi po staremu chłopami, każde słowo o przebudowie i reformie wywołuje wśród tych działaczy strach, oznacza niepokój, może likwidację archaicznej struktury agrarnej. Dla nich postęp to regres — tak odbierają reformy rynkowe. Wszystko, co nieznane, jest niebezpieczne. Lepsze są stare koleiny.*

*(Rzeczpospolita, nr 202)*

* * *

*Для тыповага паляка, а таксама для польскае каталіцкае царквы і польскіх палітычных уладаў усіх узроўняў, каталік на Беларусі — гэта паляк. Каталікаў беларусаў палякі не прызнаюць упрынцыпе, як пра гэта сьведчыць гісторыя. Польскі экспансыянізм на ўсход, рыхтаваньне грунту для патэнцыяльных легіёнаў на адваёву крэсаў апрануты сёння найвідавочней у ксяндзоўскую сутану.*

*(Беларус, Нью-Йорк, н-р 415)*

* * *

*12 жніўня прымас Польшчы Юзаф Глемп блаславіў 35 ксяндзоў-місіянераў, якія адпраўляюцца на Усход. Прымас Польшчы сказаў, што гэта „вялікае непаразуменьне" калі ксяндзоў-місіянераў абвінавачваюць у паланізацыі.*

*(Свабода, н-р 32)*

* * *

*W części III pracy ks. Jana Karczewskiego „Kościół zamkowy" na stronie 94—95 czytamy: „1610 roku 30 września. Za zasługi komendarza wiecznego Kryńskiego ks. Jana Mężyńskiego, który cnotami i pracą pasterską wielu ludzi, ze szlachty i z prostych, do Kryńskiego kościoła nawrócił".*

*Kim byli nawróceni ludzie? Czy byli to jeszcze poganie? Czy chrześcijanie nawróceni z prawosławia, tzw. unici?*

*(U źródeł Krynki, sierpień 1994 — czasopismo gminy Krynki)*

Толькі навукоўцы з Крынак могуць вырашыць гэту праблему. За „рамізай" пачынаюць ужо будаваць гмах універсітэта. Неўзабаве ўсё высветліцца.

* * *

*„БОКО" из Белостока — на приёме у Виктора Гончара.*

*Заместитель премьер-министра Виктор Гончар принял делегацыю Белорусского общественно-культурного общества (БОКО) из Белостока в составе почетного председателя профессора А. Борщевского, председателя главной управы Я. Сычевского, секретаря В. Ласкевич. Гости пригласили заместителя руководителя Кабинета министров на сентябрьские торжества, посвещенные 50-летию белорусского лицея в г. Бельске-Подляским (Польша), и попросили его передать приглашение по этому поводу Александру Лукашенко. Приглашения были с благодарностью приняты.*

*(Рэспубліка, н-р 171)*

БОКО дэ Беластоко —tyż piknie!.

## З мінулага тыдня

**У Вільні праходзілі „Дні польскай прэсы"**, якіх арганізатарам выступіла Польскае пасольства ў Літве. Падчас мерапрыемства сваю прадукцыю прадстаўлялі рэдакцыі газет „Жэчпасполіта", „Впрост", „Пшэкруй", „Найвышшы час" і „Не". Была таксама праведзена папулярызатарская кампанія новага тыднёвіка „Слово Віленьске", якое выдаецца пры дапамозе польскага выдавецтва „Прэспубліка".

**У Тарнопалі** на Украіне адзначалася 50-годдзе высялення лэмкаў з Польшчы. З гэтай нагоды адбыўся Фестываль лэмкаўскай культуры з удзелам прадстаўнікоў лэмкаў з Львоўскай, Івана-Франкоўскай і Тарнопальскай абласцей.

**Міністр замежных спраў Албаніі** абвінаваціў Грэцыю ў пастаўках узбраення для грэцкай нацыянальнай меншасці ў гэтай дзяржаве. Албанскі ўрад сцвярджае, што грэцкая тайная паліцыя перадала 2 тысячы штук агнястрэльнай зброі грэцкім нацменам і такім чынам грэцкія ўрадавыя і пазаўрадавыя кругі хочуць знішчыць незалежнасць Албаніі.

**На нечарговай сесіі Гарадской рады ў Бельску-Падляшскім**, пасля трох месяцаў перамоў паміж пераможнай Бельскай кааліцыяй і апазіцыйнай кааліцыяй „Еднасць", быў выбраны бурмістр горада. Стаў ім **Андрэй Сцепанюк**, настаўнік беларускай мовы ў Беларускім ліцэі (*шырэй пра сесію чытайце на стар. 3*).

Пасля трохмесячных персанальных разборак **Гмінная рада ў Мілейчыцах** урэшце выбрала свае ўлады. Спачатку адбыліся перавыбары старшыні Рады. У іх выніку Раду ўзначаліў інжынер-аграрнік **Мікалай Салышка** (перад гэтым з паста старшыні была адклікана **Мар'я Цеслік**). Затым войтам гміны радныя выбралі **Мікалая Блашчука**, настаўніка мясцовай школы.

**У Гарадку** пачаліся археалагічныя раскопкі ў рамках праграмы даследавання археалагічна-гістарычнага пагранічча Падляшша і Вялікага княства Літоўскага. Аб'ектам вывучэння будзе сярэднявечнае гарадзішча. Каардынатарам гэтага мерапрыемства з'яўляецца Беластоцкае навуковае таварыства. На ўступны этап даследавання Міністэрства культуры і мастацтва адвяло 120 млн. зл. Даследаваннямі цікавяцца таксама археолагі і гісторыкі з Беларусі.

**Вольга Казлоўская** з Міклашоў і **Тэрэса Прызмат** з Васілёўкі атрымалі ўзнагароды імя Оскара Кольберга „За заслугі для народнай культуры". Гэта самая высокая краёвая ўзнагарода, якую прысвойваюць народным мастакам. Першая лаўрэатка займаецца вырабам дэкаратыўных прадметаў з саломы і лазы, другая — тчэ падвойныя дываны.

**Вялікая ўборка Мазураў, Сувальшчыны і Падляшша** — пад такім лозунгам каля дваццаці тысяч чалавек прыбіралі турыстычныя мясціны паўночна-ўсходняй Польшчы. Прыхільнікі экалагічных рухаў збіралі смецце ў лясах і на берагах рэк і азёраў, між іншым, у ваколіцах Беластока і Семяноўкі. Акцыю арганізавалі Таварыства „Беласток 2000" і Радыё Беласток.

**П'еса Тадэвуша Слабадзянка „Прарок Ільля"**, якая ў чэрвені г.г. дэманстравалася па I праграме Польскага тэлебачання, выклікала адмоўныя пачуцці сярод праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Справай займалася Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання, якой члены згадзіліся з думкай, што драма Слабадзянка — гэта твор выдатны, аднак кіраўніцтва ТБ павінна мець свядомасць, што спектакль, нягледзячы на інтэнцыі пастаноўшчыкаў і мастацкія функцыі, часткай шматмільённай аўдыторыі можа быць успрыняты як факт, які абражае іх рэлігійныя пачуцці ці перакананні або пагражае развіццю дзяцей і моладзі. Адзін з членаў Краёвай рады **Ян Шафранец** з Беластока назваў твор Т. Слабадзянка „вульгарызаваным пасіённым блюзнерствам".

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Новая ўлада ў Мілейчыцах.
- Як будуецца Музей у Гайнаўцы.
- У Беластоку пра "крэсы".
- Небяспечна нават на вясковых дарогах.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

**Прыйдзецца тужэй зацягнуць паясы**

Як вядома, урад рэспублікі рыхтуе антыкрызісную праграму, якая будзе абнародавана ўжо ў бліжэйшы час. Якія меры будуць прыняты па наладжанню работы прамысловых прадпрыемстваў, павелічэнню вытворчасці прадуктаў харчавання і тавараў народнага спажывання пакуль невядома. Але паводле некаторых звестак можна меркаваць, што паляпшэнне жыцця для жыхароў рэспублікі ў бліжэйшым будучым не адбудзецца. Што гэта так, пацвярджаюць лічбы антыкрызіснай праграмы. Напрыклад, да сярэдзіны 1995 года плануецца павелічэнне платы за жыллё ў 21 раз, за ацяпленне і гарачую ваду — у 100 разоў, за халодную ваду — у 50 разоў, за прыродны газ — у 135 разоў, за электраэнергію, праезд у пасажырскім гарадскім транспарце — у 8 разоў. Да таго ж мяркуецца ўвядзенне больш жорсткага кантролю за фондам аплаты працы, адмаўленне ад ільготнага крэдытавання будаўніцтва жылля і пакупкі тавараў народнага спажывання, пераход на свабодныя цэны.

**Хто ёсць хто?**

Чакаецца, што гэтае пытанне будзе для парламентарыяў асноўным на працягу першых гадзін работы чарговай сесіі Вярхоўнага Савета 27 верасня. Падставай для гэтых разборак паслужыць істотная перагрупоўка сіл у парламенце, звязаная з выбарам першага прэзідэнта рэспублікі. Справа ў тым, што некалькі дзесяткаў народных выбраннікаў былі запрошаны для работы ў апарат прэзідэнта, а значыць, згодна з дзеючай цяпер Канстытуцыяй, павінны аўтаматычна скласці з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы. На думку асоб блізкіх да кіраўніка дзяржавы, у прэзідэнта ёсць хваляванні. Калі ВС пакінуць блізкія і давераныя асобы, ён можа ў вышэйшым заканадаўчым органе мець даволі моцную апазіцыйную структуру. У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка і не спяшаецца з афіцыйнымі назначэннямі некаторых членаў сваёй каманды, неабходных яму ў якасці дэпутатаў у парламенце. Адным з іх з'яўляецца Дзмітрый Булахаў.

**Абурэнне ў сувязі з артыкулам**

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько сустрэўся з паслом Расейскай Федэрацыі Ігарам Сапрыкіным. У ходзе перагавораў ішла размова аб далейшым супрацоўніцтве Беларусі і Расеі. Уладзімір Сянько папрасіў пасла перадаць кіраўніцтву сваёй дзяржавы абурэнне ў сувязі з публікацыяй „Краіна агуркоў", напісанай яўна ў шавіністычным духу, якая з'явілася 3 верасня ў газеце „Известия". Яна выклікала, мякка кажучы, здзіўленне ў кіраўніцтва рэспублікі. Гэты артыкул, паводле слоў міністра, уніжае і абражае не толькі прэзідэнта Беларусі, але і ўвесь беларускі народ.

**Вывад — так, знішчэнні — не!**

Адбылася сустрэча кіраўнікоў міністэрстваў абароны Беларусі і Расеі. Перамовы міністраў датычыліся ў асноўным вываду расейскіх войск з тэрыторыі рэспублікі. Міністр абароны Беларусі Анатоль Кастэнка і камандуючы вайскамі далёкай авіяцыі РФ Яўген Калугін абмяркоўвалі, між іншым, захаванне цэласнасці многіх ваенных аб'ектаў, якія часта ў варварскі спосаб знішчаюцца адыходзячымі салдатамі, а таксама экалогію мясцін адкуль выводзіцца баявая тэхніка.

**Каму дзяржаўны статус?**

Лёс рэспубліканскіх перыядычных выданняў, што былі адпушчаны прэзідэнтам на вольны хлеб з агаворкай, што большасці з іх дзяржаўныя датацыі будуць адменены, па ранейшаму знаходзіцца ў цэнтры ўвагі прэзідэнцкай адміністрацыі. Вырашаецца, напрыклад, пытанне аб аплаце паштовых паслуг дзяржаўнымі выданнямі з мэтай зніжэння адлічэнняў за распаўсюджванне газет падпісчыкамі. У бліжэйшы час будзе вырашана пытанне, якія сродкі масавай інфармацыі атрымаюць статус дзяржаўных.

**Сына ажаніў і зорку страціў**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб выкарыстанні былым міністрам абароны генерал-палкоўнікам Паўлам Казлоўскім службовага становішча ў асабістых мэтах. У дакуменце гаворыцца, што ў выніку кантролю ўстаноўлена наступнае: былы міністр, адзначаючы 11—12 чэрвеня г.г. вяселле сына (ён, дарэчы, ажаніўся з дачкою цяперашняга старшыні Вярхоўнага Савета), выкарыстаў службовае становішча і арганізаваў прыём у сталовай і памяшканнях падлеглых ваеннаму ведамству, што прывяло да нанясення дзяржаве страты ў буйным памеры. У сувязі з гэтым Павел Казлоўскі паніжаны ў званні да генерал-лейтэнанта. Матэрыялы з кантролю перададзены на разгляд Генеральнаму паракурору і Міністэрству абароны, якое мае вырашыць пытанне далейшага знаходжання Паўла Казлоўскага ва ўзброеных сілах рэспублікі.

**У калідорах дрэнна пахне**

— Я прыйшоў у каманду Лукашэнкі за перамогай, а не за партфелем, — сказаў Анатоль Лебядзько, дэпутат 265 выбарчай акругі Гродзенскай вобласці. — Сёння ў калідорах беларускага Белага дома на плошчы Незалежнасці дрэнна пахне. Гэты пах ідзе ад людзей, якія ўчора аблівалі брудам Лукашэнку, а сёння запэўніваюць, што ведалі і любілі прэзідэнта ледзь не з дзяцінства. Не зайздрошчу калегам з адміністрацыі прэзідэнта, якія займаюцца кадравымі справамі. Самы час выдаць ім талоны на малако з-за вельмі шкодных умоў працоўнай дзейнасці.

# У БЕЛЬСКУ ЁСЦЬ БУРМІСТР

**Паспяховыя выбары прайшлі на нечарговай сесіі Гарадской рады ў нядзелю 11 верасня. Бурмістрам стаў 31-гадовы настаўнік беларускай мовы ў Ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК.**

Андрэй Сцепанюк у мясцовай палітыцы — асоба добра вядомая. У самаўрадавых выбарах 1990 года быў ён старшынёй Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску. У апошніх выбарах, ад імя БВК, быў галоўным канструктарам Бельскай кааліцыі. Пасля месяцаў перамоў стаў старшынёй Выбарчага камітэта „Бельская кааліцыя".

Новы бурмістр, дзякуючы за выбар, сказаў між іншым: „Згадзіцца кандыдаваць не было мне лёгка. Толькі вера ў тое, што супольна можам нешта ў горадзе змяніць, можам штосьці добрае зрабіць для жыхароў, дапамагла мне рашыцца на гэты крок. Спадзяюся на добрае супрацоўніцтва не толькі з маімі калегамі з Бельскай кааліцыі, але і з раднымі Кааліцыі „Jedność", якія ў галасаванні мяне сёння таксама падтрымалі".

Андрэй Сцепанюк на 27 прысутных радных атрымаў 23 галасы.

Увогуле, у гэтую нядзелю бельскую Гарадскую раду як быццам хто памяняў. Не было спрэчак, доўгіх дыскусій, палымяных прамоў. Рада нагадвала машынку для галасавання. Спраўна выбрала не толькі бурмістра, але і яго двух намеснікаў, і ўправу горада, і намесніка старшыні Рады.

Намеснікамі бурмістра сталі: **Яўген Беразавец** (Бельская кааліцыя — Саюз левых дэмакратаў) і **Аляксандр Галамбецкі** („Jedność"; захаваў пасаду з папярэдняй кадэнцыі). Няштатнымі членамі ўправы былі выбраны: **Аляксандр Божка** (Бельская кааліцыя — Беларускі выбарчы камітэт), **Мікалай Самоцік** (Бельская кааліцыя — Саюз левых дэмакратаў), **Анджэй Шмурло і Уладзіслаў Ягела** (абодва — „Jedność").

Найдаўжэй працягваліся перапынкі — на падрыхтоўку бюлетэняў, на падлік галасоў. Але выбарчая камісія пад старшынствам Сяргея Лукашука набыла такі вопыт, што апошняе галасаванне — за пасаду намесніка старшыні рады — правяла вокамгненна. Адзіным кандыдатам быў Эдвард Альшынскі („Jedność"), — старшыня Васіль Ляшчынскі нават так і сказаў: „proszę o zgłoszenie kandydatury" — на яго і пагадзіліся ўсе 27 радных.

Такім чынам апошняя гміна ў Беластоцкім ваяводстве выбрала свае выканаўчыя ўлады. Пасля такой удалай сесіі — працягвалася ўсяго дзве гадзіны і закончылася роўна ў поўдзень — радныя падаліся на сімвалічны кілішак шампанскага.

**М.В.**

# НЕ ТРАЦІМ НАДЗЕІ

Ад імя рэдакцыйнага калектыву і свайго шчыра дзякую сябрам і чытачам „Нівы", якія даслалі нам віншаванні з нагоды выхаду 2000-га нумара тыднёвіка. Пры нагодзе шмат асоб выказалі свае меркаванні наконт зместу „Нівы". Некаторыя хацелі б бачыць наш тыднёвік менш „элітарным", дамагаюцца больш гумару, вестак з жыцця вёскі і мястэчак, больш тэмаў пра бытавыя справы. Іншыя, наадварот — пратэстуюць, што „Ніва" надта плебейская. Некаторыя нават прапануюць запрасіць да супрацоўніцтва выдатных навукоўцаў — матэматыкаў, фізікаў, хімікаў, філосафаў, дамагаюцца больш аналітычнага матэрыялу з галіны навукі і тэорыі літаратуры ды культуры. Шмат аб'явілася прыхільнікаў цэнзуры ў адносінах да тых ці іншых аўтараў, шмат асоб дамагаецца больш друкаваць матэрыялаў ад карэспандэнтаў, а некаторыя рэзкага іх абмежавання. Часам адзін і той жа чалавек прапануе некалькі, супярэчных сабе, варыянтаў рэдагавання тыднёвіка.

Шчыра дзякую за парады. Усе яны дэталёва разглядаюцца рэдакцыйным калектывам. Праблема, аднак, у тым, што хаця і мы стараемся, каб кожны быў задаволены зместам „Нівы", канчатковы вынік нашай працы мусіць быць іншы, пакуль тыднёвік накіраваны да ўсіх беларускамоўных і беларускапісьменных чытачоў. Бяда і ў тым, што, напрыклад, частка нашых сяброў паважае таго ці іншага аўтара, іншыя — наадварот, дамагаюцца спыніць публікацыю ягоных тэкстаў. Часта нават выглядае так, што важнае стаецца толькі тое, хто піша, а не як піша. Я лічу, што ўсе аўтары, усе пункты гледжання, усе думкі, якімі кіруюцца беларусы ў Польшчы, павінны быць прадстаўленыя ў „Ніве", бо толькі тады быццё яна адлюстроўваць сапраўдны вобраз нашага грамадства. Жыццё складаецца не толькі з прыемных спраў і здарэнняў, спадарожнічае нам таксама шмат прыкрасцей і расчараванняў. Не можам паказваць толькі абстрактную прыгажосць, так як не можам абмежавацца толькі да бытавых тэмаў, бо акружаючая нас рэчаіснасць гэта адно і другое.

Не можам таксама, па ўзору мінулай эпохі, паказваць людзей такімі, якімі яны ў сапраўднасці не з'яўляюцца. Сярод нас жывуць розныя чалавечыя тыпы, розныя характары — ёсць высакародныя п'яніцы і подленькія інтэлектуалы, сумленныя пракуроры і няверуючыя святары... Не хочам паказваць рэчаіснасць іншай, чым яна ёсць у сапраўднасці, хаця і мы часам яе ўпрыгожваем.

Не ёсць таксама нашай задачай будаваць ці абараняць аўтарытэты такіх ці іншых „заслужаных" — чаго дамагаюцца некаторыя нашыя сябры. Будаваць свой аўтарытэт кожны павінен сам, сваімі паводзінамі, сваёй працай, маральнымі прынцыпамі, якімі кіруецца ў жыцці. Мы можам толькі ў гэтым яму дапамагчы, ствараючы магчымасць прэзентацыі такой ці іншай асобы. На практыцы, аднак, прынцыпам у нашым грамадстве з'яўляецца пабудова свайго аўтарытэту метадам паніжэння іншых, а шчырыя выказванні, характарызуючыя адносіны да другога чалавека, найчасцей змяшчаюцца пад псеўданімамі. Цяжка ў такіх псіхалагічных умовах праводзіць якую-небудзь шчырую дыскусію. Вяскоўцы, нягледзячы на тое, ці называлі сябе „шляхтай", „халопамі" ці „інтэлігентамі", пачуўшы непрыемную сабе мову заўсёды хапалі за шаблю, штыкеціну або адплачваліся іншай злоснай рэакцыяй. Надзея толькі ў тым, што нашыя ўнукі, а можа нават і дзеці будуць ужо іншымі людзьмі.

Мяне асабіста цешыць тое, што большасць маіх калегаў журналістаў на крывадушную хлусню, пазёрства, напышлівасць рэагуюць не злосцю, а смехам, трактуючы надзьмутых дзядзькоў не як ворагаў, канкурэнтаў, праціўнікаў, а толькі як герояў нейкага гратэска. Гэта своеасаблівая рэвалюцыя, калі ў месца ваеннай мовы, змагарных слоў, нараджаецца стыль жарту з усялякай недарэчнасці. Ёсць надзея, што за пару гадоў таксама ў беларускім асяроддзі ўзнікне псіхалагічная сітуацыя, якая створыць магчымасць дыскусіі на ўсе асноўныя для нашага грамадства тэмы.

**Яўген Міранові ч**

# Белавежа без сметніц

Д-р Міхаліна Пуцэк звярнула мне ўлетку ўвагу, што ў Белавежы пазнікалі вулічныя сметніцы.

— Як гэта можа быць, — гаварыла яна, моцна ўсхваляваная, — каб турыст ці пастаянны жыхар не меў дзе выкінуць нейкую ўпакоўку ці іншыя непрыгодныя яму рэчы. Да нас, у Інстытут (даследавання млекакормячых — П. Б.) прыязджаюць вучоныя з усяго свету і таксама часта звяртаюць увагу на гэтую, здавалася б, дробязь.

Я неадкладна пазваніў войту гміны, Анне Байко. Яна мне адказала, што гэту справу ведае.

— Сметніцы былі моцна знішчаныя і знялі мы іх навесну. На жаль, прадпрыемства, у якім мы заказалі новыя, сучасныя і больш функцыянальныя сметніцы, не спяшаецца з іх выкананнем. Усё ж, думаю, — паабяцала мне пані войт, — што ў верасні г.г. новыя сметніцы на вуліцах Белавежы паявяцца.

Добра было б!

**Пётр Байко**

# Навіны з Гайнаўшчыны

У Дубінах рамантуюць тратуары, а дзе іх не было, пракладваюць бетонную костку. На тамашнім могільніку дабудоўваюць капліцу.

У Нараўцы будуюць і аддаюць новым жыхарам кватэры ў жыллёвых блоках. Некаторыя прыватныя ўласнікі крамаў разбудоўваюць свае „інтарэсы". Найбольш прадаецца піва — аматараў гэтага напою ніколі не бракуе. На вясковым рыначку ўсё шмат замежных гандляроў-карабейнікаў, але нярэдка спаткаць тут можна і сялян са свежай гароднінай.

У нядаўна адкрытай аўтазаправачнай станцыі ў Збучы гандаль у краме з дробнымі запчасткамі і продаж паліва для аўтамабіляў і трактароў вядуцца спраўна. Гэтая прыватная фірма мае немалы прыбытак.

**Аўрора**

# ФІЛЬМ АБ МЕСЦАХ МОЦЫ

Пра белавежскія месцы моцы я часта і шмат пісаў на старонках „Нівы". Прыгадаю толькі: адно з іх знаходзіцца на ўзгорку з 15 старымі дубамі, што ў Палацовым парку ў Белавежы, другое — у 495 квартале Белавежскай пушчы. Дзякуючы маім і Лешка Матэлі артыкулам, змешчаным у польскамоўнай прэсе, весткі аб гэтых нязвыклых пунктах у славутай пушчы разышліся шырока па ўсёй Польшчы. Вось, сёлета гасцявалі мы аднаго турыста з Лодзі, які змяніў нават свае канікулярныя планы і прыехаў спецыяльна ў Белавежу, каб асабіста пабачыць месцы моцы.

Па ініцыятыве Лешка Матэлі 3 і 4 верасня г.г. у Белавежы гасцявала здымачная група, якая рэалізавала фільм „Таямніцы натуры" пра падляшскія месцы моцы. У яе састаў уваходзілі: Анджэй Ружыцкі — рэжысёр, Павел Фігурскі — аператар, Кшыштаф Лятосіньскі — гукааператар і Ніна Панкевіч — сурэалізатар. Апрача згаданых месц, здымкі ў Белавежскай пушчы выконваліся таксама сярод старых дубоў ва ўрочышчы Старая Белавежа і на курганах побач вёскі Тэраміскі. На кінаплёнцы ўвекавечаны таксама малюнак белавежскай мастачкі Тамары Тарасевіч з выявай людской галавы на адным з дубоў, што растуць у Палацовым парку. Перад кінакамерай выступілі: Лэшэк Матэля, Сяргей Тарасевіч, Барыс Руско, Пётр Дваракоўскі і ніжэйпадпісаны.

У рэпартаж увойдуць таксама здымкі выканаваны на Святой Гары Грабарцы і ў атэльe Васіля Альбічука, мастака з Маджэвіцы Малой, што непадалёку Белай-Падляшскай.

Фільм будзе дэманстравацца па II праграме польскага тэлебачання, у цыкле „Era Wodnika". Дакладны тэрмін дэманстрацыі яшчэ невядомы. Той, хто зацікаўлены гэтай тэмай, павінен сачыць за цыклам. А, пакуль што, аб белавежскіх месцах моцы можна прачытаць абшырны артыкул Л. Матэлі ў верасnёвым нумары месячніка „Nie z tej Ziemi".

**Пётр Байко**
**Фота Лешка Матэлі**



*Узгорак з 15 дубамі ў Палацовым парку — гэта месца моцы.*

# ЗЛАДЗЕЙСТВА

Пішуць у газетах, што жыхароў былога Савецкага Саюза, якія прыязджаюць да нас па сваіх гандлёвых справах, абкрадаюць іх нядаўнія суайчыннікі, галоўным чынам грузіны, армяне, азербайджанцы і іншыя. Пра палякаў затое ні слова, быццам бы яны былі чыстыя, як анёлы. Аднак праўда выглядае інакш, аб чым можна прачытаць у газетах: зладзеяў і падманшчыкаў і ў нас удосталь. Прывяду адзін прыклад. Нядаўна на рыначку ў Гайнаўцы адна „руская" жанчына прадавала свае тавары. Адну сумку з таварам трымала яна за плячыма. А там блізка пілі гарэлку тры мясцовыя п'яніцы. Калі ў адзін момант жанчына тая адвярнулася, каб узяць з тае сумкі тавар, па сумцы не было і следу; п'яніц не было таксама. Жанчына падняла крык, але надарэмна. І дзіўна тое, што ніхто з мясцовых жыхароў не паспяшаў на дапамогу пакрыўджанай і не падказаў, дзе шукаць мясцовых п'яніц-зладзеяў. Мусіць у нашым грамадстве зладзейства з'яўляецца нармальнай штодзённай з'явай. Паліцыя таксама хутчэй аштрафуе селяніна за дробязь, чым зловіць злодзея.

**Мікалай Панфілюк**

# КУДЫ ІДЗЕ БЕЛАРУСЬ?

У днях 2—4 верасня г.г. у Беларусі былі арганізаваныя Дні беларускага пісьменства і друку. Цэнтральныя ўрачыстасці мелі адбыцца ў старажытнай сталіцы Беларусі — Полацку, горадзе Еўфрасініі Полацкай, Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага і Сімяона Полацкага. З Польшчы запрашэнне на святкаванні ад Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" атрымалі: Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Уладзімір Пац з беларускай секцыі Радыё „Паленія" і ніжэйпадпісаны. Нагода пабачыць старажытную сталіцу Беларусі і яе помнікі архітэктуры была тым аргументам, які не пакідаў сумнення, што трэба ўсё адкласці і ехаць святкаваць.

### Дзяржаўная мяжа!

У добрай кампаніі не адчуваліся цяжкасці начнога падарожжа рэйсавым аўтобусам Беласток—Менск. Але жарты заўсёды канчаюцца на польска-савецкай мяжы. Не пішу беларускай, бо яна ўсё яшчэ савецкая. Першае слова, якое там пачулі — гэта „нельзя". Нейкія разлезлыя лейтэнанты і палкоўнікі пару гадзін даказвалі, што ў прапагандаванні дурнаты няма ў іх сур'ёзных канкурэнтаў. Мяжа — візітка дзяржаўнасці — засталася рэліктам савецчыны ў яе найгоршым выяўленні. Новае толькі ў тым, што долар стаў там адзіным богам, заступіў права і маральнасць, вызначыў рытм працы мытнікаў і пагранічнікаў.

### Суткі ў Менску

Пры ўваходзе ў гатэль „Мінск" дзядзька, па выглядзе — маёр спецслужбаў, прывітаў словамі: „Тарарышчы, месц нет". Калі даведаўся, што мы замежнікі, і маем „браніраваныя" месцы, ветліва запрасіў нас у фатэлі, а сам пабег будзіць зморaных працай адміністратарак. Аказалася пасля, што палова пакояў у гатэлі пустуе. Савецкую логіку немагчыма, аднак, зразумець нармальнаму чалавеку. Яна відаць вышэй „всех и всего".

У сядзібе Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Ніна Петухова пазнаёміла нас з праграмай нашай пабыўкі. Шмат чаго не разумеем, але гэта пэўна з прычыны недахопу сну і раптоўнай змены надвор'я. Ішоў густы дождж. З Валодзем Пацам вырашылі мы аднак парушыць рэжым дня і наведаць кнігарні. Мяне цікавіла перш за ўсё новая гістарычная літаратура. Але, на жаль, яе амаль не было. Старую камуністычную міфалогію дзесьці пахавалі, новую гістарыяграфію пакуль што яшчэ не стварылі, або не паспелі надрукаваць. Пару кніжак, пісаных на патрэбы навучальных установ, так у галіне тэрміналогіі, як і інтэрпрэтацыі фактаў, моцна нагадваюць савецкую школу аўтараў. Цэны кніжак проста сімвалічныя. За адзін долар можна купіць 5—6 акуратна пераплеценых кніг. Выдавецтвы зарабляюць на замежнай псеўдалітаратуры друкаванай на расейскай мове, тыпу „арлекін", „парнуха", „дэтэктыў". Савецкі чалавек знаёміцца толькі са сметнікам замежнай культуры. Пашыраецца такім чынам круг інтэлектуальнага люмпенства. Адсутнасць якой-небудзь культурнай палітыкі, накіраванай на ратаванне нацыянальнай спадчыны, відаць не толькі ў кнігарнях. Назвы вуліц, помнікі катаў беларускага народа ў цэнтры горада, сталінскі рэнесанс у архітэктуры, шэрасць колераў, чужамоўныя надпісы на будынках дзяржаўных устаноў ствараюць ураджанне, як бы ў сталіцы Беларусі затрымаўся час.

У праграме нашага візіту была сустрэча са студэнтамі і настаўнікамі Педагагічнага інстытута. Відаць было, што не надта ведалі рускамоўныя дацэнты, што з намі зрабіць. Завялі, аднак, у агромністую залу запоўненую студэнтамі. Ініцыятыву ад самага пачатку ўзяў Сакрат Яновіч. У кароткім дакладзе прадставіў ён тэму: „Беларусы Беласточчыны", выказаў свае меркаванні наконт літаратуры і культуры. Неспадзявана некалькі студэнтаў пачалі нават ставіць пытанні і да таго ўсе гаварылі, у адрозненне ад сваіх прафесараў, на беларускай мове. Магчыма таму, што Сакрат у сваім выступленні не пакінуў ніякага сумнення, што ў Еўропе лічацца толькі з тымі народамі, якія маюць сваю годнасць і культуру.

Урачыстая вечарына, прысвечаная Дню беларускага пісьменства і друку, якая адбылася ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, прыцягнула ўвагу менскай інтэлігенцыі. Былі прысутныя прадстаўнікі ўрада Беларусі і мітрапаліт Філарэт.

Словы прывітання, зачытаныя нейкім хлапчуком з канцылярыі прэзідэнта Лукашэнкі, не выклікалі энтузіязму публікі. Як гаварылася падчас перапынку, была гэта крывадушнасць пасля выступлення прэзідэнта перад студэнтамі менскага Педагагічнага інстытута, калі сказаў ён, што пераклады навуковай літаратуры на беларускую мову будуць стрыманыя. А тут жа быў Дзень беларускага пісьменства і друку. Таму найбольш цёпла публіка ўспрыняла выступленне паэта Ніла Гілевіча (тэкст друкуем на 1 і 5 старонках), які сказаў шчыра пару слоў у адрас дзяржаўных і царкоўных улад наконт іх адносін да роднай мовы і культуры. Атмасфера пасля выступлення Ніла Гілевіча была такая, што нават мітрапаліт Філарэт, здаецца, упершыню загаварыў па-беларуску. На сцэне тэатра імя Янкі Купалы было заклапочанасць пра беларускую мову і культуру выказалі, між іншым, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, міністр культуры Анатоль Бутэвіч і шмат іншыхураднікаў. „Мова — трава", як кажуць палякі.

Урачысты канцэрт у выкананні артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дзяржаўных камерных хораў, харэаграфічных ансамбляў усвядоміў мне патэнцыял беларускай культуры. Нават песні і танцы, якія адклікаліся да народных матываў, у выкананні маладых артыстаў набывалі характар высакаякаснага мастацтва. Гэта трэба было пабачыць, гэтага словамі не прадставіць журналіст.

Сустрэча з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Сянько мімаходам прывяла ў галаву пытанне, як гэты еўрапеец і прафесіянальны дыпламат адчувае сябе ў лукашэнкаўскай камандзе. Зразумела, ні пытання, ні адказу такога не было. Міністр расказаў пра складаную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, праінфармаваў, што ўрад вельмі рашуча імкнецца да зменаў. Прадстаўленую намі сітуацыю на польска-беларускай мяжы міністр акрэсліў як скандальную, якая патрабуе змены ўсёй сістэмы працы мытных і пагранічных службаў.

Пагаварыўшы ў Менску з людзьмі розных прафесій і з розных грамадскіх асяроддзяў, я дайшоў да вываду, што калі б сёння адбываліся ў Беларусі выбары, Лукашэнка атрымаў бы пад 10% галасоў. За тры дні я не спаткаў ніводнага чалавека, які б прызнаўся, што галасаваў на сённяшняга прэзідэнта. Выглядае так, што ў наступных выбарах галоўным канкурэнтам Пазьняка і Беларускага народнага фронту будзе толькі знеахвочанасць грамадства да палітыкі і палітыкаў. Узамен за рэзкае павышэнне цэн народ не атрымаў многа — ні пачуцця справядлівасці, ні следу змагання з мафіяй і карупцыяй наменклатуры, ні свабоды, ні надзеі на самакіраванне. Дзяржаўная маёмасць гэтым часам як раскрадалася, так раскрадаецца, адсутнасць гаспадара відаць у кожнай краме, гатэлі, будынку, школе. А прэзідэнт на ўсё гэта прадставіў просты рэцэпт падчас інтэрв'ю для маскоўскага тэлебачання — „соединение с Россией". Аб'ядаў супраць сябе такім чынам цэлы нацыянальны лагер.

*(заканчэнне будзе)*

**Яўген Мірановіч**

# НАШЫ КАРАНІ

### LXX. НА РАТУНАК СВАЕ ВЕРЫ

У апошняй чвэрці XVI стагоддзя ўзмоцніўся наступ каталіцкай іерархіі і каралеўскай улады на Праваслаўе, асабліва шчыравалі перахрышчаныя з пратэстантызму ў каталіцызм каралі Стэфан Баторый і Зыгмунт III Ваза. Езуіты паўсюдна атакавалі і ганьбавалі праваслаўную веру і навярталі яе вызнаўцаў у каталіцызм. Каралеўская адміністрацыя, магнаты, шляхта самаўпраўна ўмешваліся ў справы ўнутранага жыцця Царквы і мэтанакіравана спрычыняліся да яе неўладкаванасці і слабасці. Урэшце пашыраліся нязгодныя з патрабаваннямі царкоўных законаў паводзіны некаторых праваслаўных іерархаў. Усё гэта ў канцы XVI стагоддзя паставіла праваслаўную Царкву ў Рэчы Паспалітай у трагічнае становішча.

На ратунак свае веры паспяшаліся найболей свядомыя і ахвярныя вызнаўцы Праваслаўя. Пры сваіх цэрквах сталі гуртавацца рамеснікі, купцы, баярства, а нават магнаты і князі. Першае такое брацтва ўзнікла ў Вільні ў 1584 г. пры Свята-Троіцкім манастыры. Дзейнасць віленскага брацтва была надзвычай плённай. Коштам членскіх узносаў і ахвяраванняў братчыкамі яно прыдбала значную маёмасць, і гэта дало яму магчымасць дзейсна ўспамагаць Царкву і духавенства.

Віленскае брацтва заснавала школу. Яна славілася высокім узроўнем навучання. Выкладалі ў ёй выдатныя асветнікі, між іншым, Лаўрэнцій Зізаній, аўтар першага на Беларусі буквара „Наука ку читаню и разуменю пісма словенского" (1596) з ілюстрацыямі і „Грамматікі словенской свершенного искуства осми частій слова" (1596). Гэтыя кнігі выдатна спрыялі пашырэнню асветы ў беларускім грамадстве. Навуковыя і метадычныя вартасці „Грамматікі" Зізанія спрычыніліся да перавыдавання яе ў Балгарыі, Сербіі, Чэхіі і іншых краінах.

Віленскія братчыкі заснавалі таксама друкарню (1595) пры тым жа манастыры і дарычылі яе весці славутаму царкоўнаму дзеячу, абаронцу Праваслаўя і пісьменніку Сцяпану Зізанію (брату Лаўрэнція Зізанія). Друкарня працягвала найлепшыя традыцыі беларускага друкавання Ф. Скарыны, І. Фёдарава, П. Мсціслаўца, Г. Івановіча. У ёй друкаваліся не толькі школьныя падручнікі, літургічная і багаслоўская літаратура, але таксама філасофскія і палемічныя творы абаронцаў Праваслаўя. За прыкладам віленскага брацтва друкарні паўсталі ў Еўі, Магілёве, а потым і ў іншых моцных асяродках брацкага праваслаўнага руху. А брацкі рух у канцы XVI і на пачатку XVII стагоддзя пашыраўся ў Рэчыпаспалітай усюды там, дзе былі праваслаўныя, амаль у кожнай гарадской, а часта і вясковай парафіях дзейнічалі брацкія згуртаванні прыхаджан. У Мінску, напрыклад, тады працавала аж восем брацтваў.

Амаль усе брацтвы вялі школы, наймалі для іх настаўнікаў, забяспечвалі памяшканнем і падручнікамі. Школы падзяляліся на ніжэйшага і вышэйшага ўзроўню. У іх вывучаліся царкоўнаславянская, беларуская, польская і нярэдка грэцкая і лацінская мовы, навучанне вялося з выкарыстаннем лепшых твораў на гэтых мовах, між іншым, „Псалтыра", старажытных грэцкіх і лацінскіх пісьменнікаў, заходнееўрапейскіх і беларускіх аўтараў. У вышэйшых класах вывучаліся, між іншым, геаметрыя, астраномія, музыка.

У брацтвах гуртаваліся вядучыя сілы тагачаснай праваслаўнай грамадскасці. Гэтак да віленскага Свята-Троіцкага (потым Свята-Духаўскага) належалі не толькі купцы і рамеснікі, але таксама дзейнічалі ў ім ваявода навагрaдскі Фёдар Скумін-Тышкевіч, ваявода смаленскі Філон Кміта-Чарнабыльскі, князі Сапегі, Сангушкі, Мсціслаўскія, Сакалінскія, Палубенскія, Масальскія, Агінскія і іншыя — у іх разам каля 400 выдатных асобаў, эліта тагачаснага грамадства.

Таксама на землях сённяшняе Беласточчыны брацкі рух набыў немалы размах. Пераше брацтва тут узнікла ў 1589 годзе пры Багаяўленскай царкве (цяпер гэта храм Архангела Міхаіла) у Бельску-Падляшскім. Пазней у Бельску заснавалася брацтва св. Мікалая. У Драгічыне дзейнічала ў тым часе брацтва Спаса, затым таксама св. Мікалая. Вельмі актыўна працавала брацтва св. Мікалая ў Кляшчэлях. Гэтыя брацтвы вялі школы, прытулкі для бяздомных і сірот, шпіталі для хворых. Дзейнасці кожнага з гэтых брацтваў неабходна прысвяціць асобныя артыкулы, бо гэта яны ў тыя змрочныя часы ратавалі нашую веру, нашу Царкву.

Наогул праваслаўныя брацтвы на беларускіх і ўкраінскіх землях споўнілі неацэнна вялікую ролю ў абароне Праваслаўя, у развіцці праваслаўнай духовай і нацыянальнай беларускай і ўкраінскай культуры. Гэта яны абаранялі і то даволі дзейсна праваслаўную Царкву ад розных атакаў і націскаў з боку іншаверцаў, асабліва ад рымакатолікаў, а затым уніятаў. Брацтвы ахоўвалі наша духавенства ад праследаванняў, але і патрабавалі ад яго ўзорных хрысціянскіх паводзін і прыстойнага спаўнення сваіх абавязкаў. Дзякуючы стараниям і ахвярнасці братчыкаў паўставалі новыя храмы, забяспечваліся яны ўсім неабходным: іконамі, богаслужэбнымі кнігамі, літургічным начыннем і іншым абсталяваннем. Брацтвы абсталёўвалі майстэрні і давалі заказы іканапісцам, утрымоўвалі іх, дапамагалі таксама збяднелым братчыкам, удовам, абаранялі справы Царквы і яе верных у розных судах, выступленнях на сеймах, скаргах на імя караля. Словам — брацтвы былі праўдзівымі праваслаўнымі духоўнымі сем'ямі і адзіным паратункам нашай веры.

**Мікола Гайдук**

# МАЦІ — НЕ ПАМРЭ, МАЦІ — БУДЗЕ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

*Працяг са стар. 1*

шах беларусаў. Кніга заставалася быць для нас тым сонцам, да якога цягнецца ўсё жывое.

Дык ці мелі мы права не падумаць пра свята ў гонар яе вялікасці Кнігі, у гонар друкаванага слова наогул, у гонар нашага роднага беларускага пісьменства? Не мелі, канешне. І такое свята ў нашай свабоднай і суверэннай дзяржаве ўсталявана. Наша задача — зрабіць гэта свята ўсенародным, і найлепш — са сталаю датай, вызначыўшы пэўны дзень і абвясціўшы яго непрацоўным выхадным днём.

Свята беларускага пісьменства і друку — гэта свята асветы, адукацыі, навукі, культуры. Гэта свята павінна працаваць на ўздым нацыянальнай самасвядомасці, на развіццё пачуцця нацыянальнай годнасці ў маштабах усёй дзяржавы, на яднанне, згуртаванне ўсяго народа краіны на грунце беларускай ідэі, ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Гэты святочны дзень павінен быць кожны год тою вяхой, дзе мы прыпыняемся, каб падвесці вынікі, што зроблена за год у сферы адукацыі і друку, як развіваецца наша пісьменства, як яно служыць нам, справе нашага нацыянальнага самасцвярджэння, як яно служыць у нас чалавеку, яго духоўнаму станаўленню...

Мы хочам чуцца пад гэтым небам людзьмі нароўні з людзьмі свету, мы хочам, каб нас паважалі, каб з намі лічыліся — як з народам, як з нацыяй, як з носьбітамі пэўнай культуры, пэўных духоўных традыцый. Але ж трэба разумець, што мы можам гэтага дасягнуць толькі добра ведаючы саміх сябе, ведаючы праўдзівую гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, ведаючы і шануючы імёны яе вялікіх сыноў і дачок, выдатных дзяржаўных мужоў і дзеячаў на ніве асветы і культуры. Мы толькі пачалі асвойваць праўдзівую гісторыю свайго народа, навуковую геаграфію сваёй зямлі, — а нам ужо загадваюць выкінуць новыя падручнікі на сметнік, а нас ізноў пачынаюць палохаць жупелам нацыяналізму — як 20 і 40 гадоў назад. Як быццам нічога ў гэтым свеце не змянілася, як быццам таварышы ўвесь гэты час беспрабудна спалі, а зараз ачнуліся і яшчэ не паспелі агледзецца, што за надвор'е ў краіне.

Наша культура найлепш будзе сцверджана, калі мы не дазволім сабе сысці на аблудны, фальшывы шлях, калі будзем вернымі тым вялікім традыцыям, што былі закладзены ў старажытнасці і ў эпоху рэнесанса. Краіна з такімі традыцыямі кнігадрукавання, кніжнай культуры, з такой мастацкай літаратурай мае ўсе падставы, каб быць у свеце сёння адной з самых культурных.

Мы ўсталявалі свята ў гонар кнігі — кнігі, якая вучыць розуму і дабрыні, якая ўзвышае і ўзбагачае душу чалавека, але тое, што мы бачым сёння на многіх кніжных прылаўках — гэта ганьба, гэта крок назад ад заваяванага нават ва ўмовах таго ладу, які спрыяльным для беларускай кнігі не назавеш. Мы праходзім міма гэтых пачварных прылаўкаў з прадукцыяй бізнесменаў ад кнігадрукавання, якія бессаромна, ахопленыя нялюдскай прагай нажывы, зрабілі стаўку на бездухоўнасць, на нізкае і цёмнае чалавеку, — мы праходзім міма і жахаемся: якая ваяўнічая пошласць, які маляўнічы аўтапартрэт мяшчанска-буржуазнай сытасці, якое пераканаўчае сведчанне разгулу антыкультуры! Але не толькі гэта. А яшчэ — і якая пагарда да нашай мовы, да нашай нацыянальнай культуры, да нашай традыцыі, да нашай духоўнасці! Да зямлі і краіны, дзе слова Кніга яшчэ і тысячу, і пяцьсот гадоў назад пісалася з вялікай літары, дзе кніга была святыняй! І ці ж не смешна, што менавіта гэтыя вытворцы і прадукторы пошласці, ачмурэлыя ад сытасці нуварышы лезуць нам у настаўнікі, глядзяць на нас як на бедных, неадукаваных правінцыялаў, у якіх няма ні дзяржаўнай гісторыі, ні культурных традыцый, ні прызнання ў цывілізаваным свеце — нічога! Я не заклікаю змятаць гэтыя пошлыя кніжныя развалы, але заклікаю да разумення і ўсведамлення, што гэта — не наш беларускі шлях, і наогул не шлях да Кнігі, да Культуры, да Храма, і што гэта не мае ніякага дачынення да Свята, якое мы святкуем.

І ў сувязі са сказаным: ці ж не дзіўна, ці ж не крыўдна і ці ж не ганебна, што менавіта ў нас у такім заняпадзе выданне перакладной літаратуры на беларускай мове — выдатных кніг мастацкай, навуковай, філасофскай, палітычнай і іншай літаратуры, — у нас, на радзіме Скарыны, Буднага, Цяпінскага, якія былі не толькі друкарамі і выдаўцамі, але і перакладчыкамі і інтэрпрэтатарамі найвялікшых кніг чалавецтва, якія першыя паказалі, як з дапамогай друкаванага слова можна засвойваць веды і культуру ўсяго свету.

У маім разуменні Свята беларускага пісьменства і друку — гэта перш за ўсё свята беларускай мовы. А як жа інакш? А што такое пісьменства і друк, калі не адзін са спосабаў жыцця мовы, — жыцця і службы свайму народу і ўсім добрым людзям свету? Яшчэ ў 14—17 стагоддзях на Беларусі і справаводства, і школа, і юрыспрудэнцыя, і архіўная справа, і кнігадрук развіваліся на беларускай мове. І ў дзяржаўных канцылярыях Княства, і ў магістратах, і пры дварах магнатаў, — усюды панавала беларуская мова, беларускае пісьмо. І толькі часткова — у сферы навукі, у дыпламатыі — выкарыстоўваліся іншыя мовы, — латынь, нямецкая, польская, што таксама сведчыла аб высокім узроўні асветы, адукацыі, агульнай культуры пісьменства. Дарэчы, і не было праблем, людзі ведалі розныя мовы, але перш за ўсё — сваю беларускую. Праблемы былі створаны пазней.

Які быў лёс нашай мовы на працягу трох апошніх стагоддзяў — вядома. Мала чым лепшы ён быў і зусім нядаўна. Ідзе чалавек, яшчэ зусім маленькі чалавек, у школу — і што ж? Ад самых першых кніг у яго жыцці, ад буквара і чытанкі — усё не на мове зямлі, дзе чалавек нарадзіўся. А першыя кнігі застаюцца ў памяці чалавека на ўсё жыццё. Набыццё граматы ім — гэта ж як другое нараджэнне. Ідзе чалавек, ужо навучыўшыся чытаць, у бібліятэку — і што ж? 80—90 і нават 95% ад усяго кніжнага фонду бібліятэкі — гэта кнігі не на мове зямлі, дзе чалавек нарадзіўся і жыве. Бібліятэка выпісвае 100 перыядычных выданняў — газет і часопісаў, і з іх 95 не на мове гэтай зямлі. Прыходзіць чалавек на працу, на службу, заходзіць у аўтобус ці трамвай, у краму ці ў бальніцу, — і нідзе ні слова, ні квітка, ніякога іншага пісьмовага дакумента на мове гэтай зямлі! А чаму? Прычына адна-адзіная: валадарам-заваёўнікам гэтая мова не патрэбна, гэтае пісьмо не патрэбна, гэтыя кнігі на гэтай мове не патрэбны, бо ўсё гэта ім перашкаджае стаць поўнымі гаспадарамі тут, на Беларусі, усталяваць тут назаўсёды, навек сваё панаванне. Ну, а каб іх панаванню не пагражала ніякая спроба нейкага там нацыянальнага адраджэння „тутэйшых" — для гэтага трэба вытравіць з іх душ нацыянальную самасвядомасць, вытравіць начыста, дарэшты, даастатку, да апошняй іскрынкі, а дасягнуць такога вытраўлення, такога забойства нацыянальнага духу найлепш, калі гэтых самых „тутэйшых" адарваць, адлучыць ад роднага слова, ад роднага пісьма, ад роднай кнігі, ад школы на роднай мове, ад універсітэта і інстытута на роднай мове, ад тэатра на роднай мове, ад працоўнай дзейнасці на роднай мове, ад святкавання свят на роднай мове, ад размовы з Богам на роднай мове! Так рабілі суседзі-заваёўнікі з Захаду, так рабілі суседзі-заваёўнікі з Усходу. І давялі становішча з роднай мовай у нас да таго, што нават па смерці чалавек не атрымліваў права называцца сваім беларускім імем. Абыдзіце ўсе могілкі нашай зямлі — старажытныя могілкі, якім гадоў па 300, па 200. Нішто вам так красамоўна не скажа пра нашу няшчасную долю, пра трагічны лёс нашай культуры, нашага пісьма, як тысячы надмагільных камянёў і помнікаў, і нішто, бадай, так балюча не ўдарыць у самае сэрца, як гэтае сведчанне нашай бяспраўнасці, нашай прыніжанасці, нашай адчужанасці ад саміх сябе. Тысячы надпісаў-эпітафій на камянях і помніках — і каб хоць адзін на мове гэтай зямлі: найбольш даўнія — амаль усе на польскай, а менш даўнія і зусім нядаўнія — усе на рускай!

Колькі мы чакалі і чакалі, калі ж, нарэшце, нашай мове будзе аказана належная дзяржаўная падтрымка. Нібыта і дачакаліся: беларуская мова абвешчана дзяржаўнай. Але гэта на словах. А на справе? Хіба ёю карыстаюцца паўсядзённа — на пісьме і вусна — нашы дзяржаўныя мужы самага высокага рангу, як гэта было ў 15 і 16 стагоддзях? Хіба і дагэтуль яна не атакуецца — пад жупелам барацьбы з нацыяналізмам — „ворагамі беларушчыны"? Усім ім, калі ў іх ёсць вочы і вушы, а галоўнае — калі ў іх ёсць хоць кропля сумлення, усім ім даўно пара адкрыць для сябе і зразумець адзін феномен чалавечай цывілізацыі — феномен беларускай мовы, яе незвычайнай жыццёвай сілы. Феномен, якога, бадай, не ведала гісторыя чалавецтва нідзе — ні ў якім кутку зямное кулі. Удумаемся толькі: цягам цэлых стагоддзяў яе, нашу мову, таптаплі, дратавалі, выразалі пад корань, аплёўвалі, а яна, як тая атава пасля касьбы, падымалася зноў. Ды што казаць таптаплі — асфальтам гарачым залівалі, упэўненыя, што нарэшце зусім пакончылі з ёю, а яна і асфальт уздымае, прабівае, разломвае — і падымаецца, жывая, зноў! Пара зразумець, што ўсякі новы крыжовы паход супроць яе — справа марная!..

Сто дванаццаць гадоў назад вялікі рускі пісьменнік, „во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах родины", пісаў, што толькі адна родная мова ёсць для яго „поддержка и опора". Толькі родная мова! „Не будь тебя — как не впасть в отчаяние при виде всего, что совершается дома"? Не ведаю, наколькі яго балючая трывога адпавядала тады расійскай рэчаіснасці. Але ў дачыненні да нашай беларускай — 300 гадоў назад, і ў часы Тургенева, і ў часы Купалы, і зусім нядаўна, і сёння — працытаваныя словы адпавядалі і адпавядаюць поўнасцю. Сапраўды, цяжка не ўпасці ў роспач „при виде всего, что совершается дома". І якое шчасце, што і ў нас ёсць гэтая адзіная падтрымка і апора — родная беларуская мова!

Учора вечарам мы бачылі і чулі, якімі бурнымі, „переходящими в овации", воплескамі выкладчыкі і студэнты Мінскага педагагічнага універсітэта (падчас сустрэчы з прэзідэнтам Лукашэнкам) сустрэлі заяву аб тым, што з пераводам на дзяржаўную мову школ у беларускай дзяржаве будзе пакончана. Ах, якія ж гэта былі дружныя, гарачыя воплескі! І якія страшныя, жахлівыя ў сваёй нялюдскасці! Дзецям сказалі: ваша хворая маці памірае, яна мусіць памерці, мы ёй паможам памерці, а яны, яе родныя дзеці, запляскалі ад радасці ў ладкі. Паспяшаліся, аднак жа, узрадавацца. Маці — не памрэ! Маці — будзе жыць вечна! Толькі трэба, каб кожнае дзіця выдавіла з сябе раба і перастала быць манкуртам.

Дзякую за ўвагу.

# Ужо дзевяць гадоў!

Як хутка ідзе час! Здаецца, я нядаўна пачала пісаць у „Ніву", а ўжо дзевяць гадоў прайшло! У красавіку 1995 года споўніцца дзесяць гадоў, як я выслала свой першы тэкст у наш тыднёвік. Пісала я тады аб тым, як рыхтаваліся да Вялікадня і святкавалі перад вайной. Тэкст быў адпраўлены запозна, і чытачы пазнаёміліся з ім ажно праз год.

Здаецца, толькі што тыдзень таму слухала я перадачу па радыё, у якой святой памяці Віктар Рудчык браў інтэрв'ю ў Веры Валкавыцкай пасля з'езда карэспандэнтаў...

Па-рознаму было. Артыкулы адны друкаваліся, іншыя пайшлі ў кош, але я не пераставала пісаць. Калі на пенсію адышлі Вера Валкавыцкая і галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі, я вельмі хвалявалася, ці новаму рэдактару спадабаюцца мае допісы. Калі пасаду Віталія Лубы заняў Яўген Міраловіч, ён усім карэспандэнтам напісаў лісты з просьбай пісаць надалей і запэўніў усім разам асобную старонку.

Калі я пачынала пісаць, „Ніва" друкавалася традыцыйным спосабам. Памятаю, як на адным са з'ездаў тадышні наш апякун Сакрат Яновіч прынёс свежанькую „Ніву" з друкарні, даў кожнаму карэспандэнту некалькі экземпляраў. Цяпер „Ніва" рыхтуецца на камп'ютэрах у самой рэдакцыі, а друкуецца па сучаснай тэхналогіі...

Памятаю, некалькі разоў я востра палемізавала з Фёдарам Хлябічам. Што з ім цяпер? Некалькі гадоў таму скардзіўся ў беларускай радыёперадачы, што ў „Ніве" яго чамусьці не друкуюць. Як ён там жыве? Няхай азвецца часам, ды і не толькі ён! Некаторыя чытачы прымаюць палеміку як нейкую сварку, але гэта ж толькі абмен поглядамі.

2000-ы нумар „Нівы" — гэта ж немалое свята! Калі б гэта было пару гадоў раней, можна было б арганізаваць большае святкаванне. Можа, рэдакцыя аб'віла б конкурс на найпрыгажэйшыя выказванні, што чытачам найбольш падабаецца ў тыднёвіку. Усе рэдакцыі так робяць, бо хочуць ведаць думку чытачоў. Цяпер з-за недахопу фінансавых сродкаў гэта хіба немагчыма?

Добра, што дачакалі мы такога свята. Няхай „Ніва" дачакаецца хоць бы і 4000-га нумара! Жадаю ён найменш традыцыйных ста гадоў!

**Аўрора**

# Карты паветаў

„Poliart" Беаты Калькэ, што ў Тарноўскіх Гарах, прапануе продаж карт паветаў у маштабе 1:25000 з гадоў 1959—1966, якія выдала Тапаграфічнае праўленне Генеральнага штаба. У свой час гэтыя карты лічыліся „poufnymi" або „tajnymi". Чытачоў „Нівы" павінны зацікавіць перш за ўсё наступныя карты:

— Беласток (9 аркушаў), 1962 г., цана 900 тыс. зл.
— Бельск-Падляшскі (8 арк.), 1963 г., 800 тыс. зл.
— Дуброва-Беластоцкая (6 арк.), 1963 г., 600 тыс. зл.
— Гайнаўка (8 арк.), 1964 г., 800 тыс. зл.
— Семяцічы (11 арк.), 1965 г., 1 млн. 100 тыс. зл.
— Саколка (8 арк.), 1963 г., 800 тыс. зл.

Заказы можна дасылаць на адрас: „Poliart", Beata Kalke, skr. pocztowa 69, 42-600 Tarnowskie Góry.

**Пётр Байко**

# Зорка
## старонка для дзяцей

# ВАРОНА

Жыла-была ў пушчы Варона. Аднойчы яна пазнаёмілася з гусямі, што плавалі паблізу вёскі. І нібы падмянілі яе. Вярнулася пад родныя шаты і:

— Тэрмінова патрэбен маляр!

Прыбег Янот-маляр, а яна:

— Бяры квач і пабялі мае пёры!

Праз хвіліну паглядзелася Варона ў лужыну, задаволена каркнула і паляцела на рачулку:

— Паўзірайцеся, гусі! У чараду вашу хачу!

— Га-га-га! — зарагаталі гусі, а гусак Сімка сказаў:

— Ты, ш-шаноўная, ш-шалапутка!..

Варона нібы косткаю падавілася. А вярнулася дамоў, і там яе сароміць сталі:

— Краля!..

А яна:

— Га?

— Гэта здрада!

А яна:

— Га?

— Бач ты яе! — не вытрымалі сяброўкі. — Ужо і мовы матчынай цураецца, толькі пагусінаму і гаворыць!.. Тады перабіралася б на раку. Толькі ці далёка заплывеш з імі?..

Белая Варона, якая нядаўна была шэрай, апусціла дзюбу і ўпершыню задумалася: „Сапраўды, ад сваіх адраклася і да чужых не прыбілася..."

**Яраслаў Пархута**




*Выступаюць вучні з ласінкаўскай школы.* **Фота Міколы Ваўранюка**

Беларускі сувенір

# МОТАЛЬСКІЯ РУЧНІКІ

Ёсць на Палессі, у Іванаўскім раёне, вялікае прыгожае сяло Моталь. Сёння яго ведаюць далёка за межамі Беларусі, і праславілі яго мясцовыя майстрыхі сваімі прыгожымі ручнікамі, якія не зблытаеш з іншымі.

Дэкор мотальскіх ручнікоў вельмі характэрны. Срабрыстабелае поле, вытканае „ў ёлачку", перабіваецца далікатнымі чырвонымі палоскамі, якія ідуць і ўздоўж, і ўпоперак ручніка, утвараючы рэдкую клетку. Па канцах палоскі гусцейшыя і шырэйшыя, узор больш выразны, кожны яго элемент мае пэўную назву: „кветкі", „зубры", „ліст", „сякач", „жучкі" і інш. Завяршаюцца ручнікі карункамі, ювелірна выплеценымі ўручную з нітак асновы.

У 1977 годзе ў Моталі быў створаны ткацкі цэх ад Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Лепшыя мясцовыя ткачыхі Ганна Шыкалай, Марыя Дзямковіч, Алена Лукашэвіч, Ганна і Праскоўя Новік ахвотна адгукнуліся на прапанову наладзіць масавы выраб ручнікоў, якія пабывалі на выстаўках і кірмашах у Бельгіі, Францыі, Турцыі, Фінляндыі і іншых краінах свету.

Наш час унёс пэўныя змены ў характар мотальскіх ручнікоў. Недахоп натуральнай сыравіны вымушае майстрых выкарыстоўваць штучныя матэрыялы з іх больш яркімі колерамі. Паўплывалі і тэндэнцыі сучаснага народнага мастацтва да большай дэкаратыўнасці. Чырвоны дэкор мотальскіх ручнікоў дапоўніўся жоўтымі, зялёнымі, сінімі колерамі, канцы аздабляюцца сакавітай гладзевай вышыўкай раслiннага характару.

**Яўген Сахута**

*Арсен Расцветнікаў*

## ВЕРШАВАНЫЯ ЗАГАДКІ

* * *

Белы домік з камінамі
мычыцца сінімі палямі
і, разворваючы ўлонне,
да сярэдзіны ў іх тоне,
шумна пыхкае-ўздыхае,
а слядоў не пакідае.

Не здзіўляецца народ —
гэта мчыцца......

* * *

Аэрадром ляжыць на доме,
а на тым аэрадроме
незвычайны самалёт
адпраўляецца ў палёт.
Крылы ўшыркі распрамляе,
без прапелера ўзлятае.
Варта ж толькі самалёту
сесці ў топкае балота,
як жабоцькі ўсе гурмою
ўміг знікаюць пад вадою
і, знямеўшы, небаракі
аж дрыжаць там з пераляку.
......

* * *

Калі дождж знянацку хлыне,
я хаваюся ў хаціне,
схоў знаходжу пад страхой
нават скварнаю парой.
На хвіліну не пакіну —
над сабой нясу хаціну.
А згарнуцца папрашу —
у руцэ яе нашу.

Здагадаўся ўжо Сымон:
гэта, хлопцы, ......

* * *

Знаю хлопца аднаго
з доўгай тонкаю нагой.
Выпаў хлопцу добры лёс:
дзе радзіўся, там і ўзрос.
Залатою галавой
ён ківае над зямлёй:
З раніцы бясконца
б'е паклоны сонцу.
.....

* * *

Стала ў тым канцы двара
з ручкай бронзавай сястра
і стаіць навідавоку
днём, і вечарам, і ў змроку.
На дварэ пачне змяркацца —
да яе бягу вітацца.
Кожнай раніцай затое
развітацца мушу з ёю.

Не падказвай, мама,
гэта, пэўна ж, .....

# 16

## НА ЗАСТАВЕ (2)

— Парушэнні межаў? — начальнік заставы перапытвае: — Ёсць, як ім не быць. Часта перасякаем у намерах. Сочым, каб не праваўся ніхто.

Начальнік выпраўляе нарады байцоў на службу. Кароткая, вельмі сур'ёзная цырымонія: даклад пра зрыхтаванасць і маршруты. Міжволі адчуваеш і сам ускладзеную адказнасць.

Просяць у сталовую. Пакаштуем салдацкага прыварку, даўно не даводзілася. Благога не скажаш — смачна! Але зрабіць, каб посуд заблішчэў — не на нашу сілу. Суседзі па сталу, чырванашчокія малайцы, пасмейваючыся, упраўляюцца з сваімі порцыямі. Большую частку сутак яны ў хадзе, на ветры і марозе.

Пакрысе завязваецца размова: колькі хто служыць, што пішуць з дому.

Пераходзім у другі пакой, тут байцоў больш. Трапляем пад абстрэл роспытаў.

— А Шолахава ведаеце? Бачылі толькі? А Фадзеева?

— Разам песні спявалі, быў у нас у гасцях...

— Праўда? Дык, можа, з намі папяём?

Спяваць пакуль не час. Перажурботныя развагі крыху адступаюцца. Праз нейкія паўгадзіны чуем: на блізкай палянцы валтузня. Дужы псіна валіць у снег чалавека і шматае на ім адзенне.

Нам паказваюць інсцэніраванае затрыманне парушальніка. Павадыр сабакі і сам чатырохлапы выканаўца атрымліваюць падзяку за спрыт і адвагу. Добра

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

ходзім на вершы: чытаем і слухаем, на заставе — двух сваіх паэтаў.

Але служба ёсць служба. Начальнік заставы прапануе стаць на лыжы. Рыхтуецца на адыход чарговы нарад.

Каля аднаго з пагранічнікаў вялікі, амаль у пояс яму, сабака — увесь увага і пільнасць. Да гэтага абавязвае сур'ёзнасць моманту і сабранасць ягонага гаспадара — і пёс напагатове.

Думкі цьмяніць невыразная трывога: „А як там мой Дзік? Ці жывы хаця?"

Падзеі разгортваюцца далей. Было б і сабе пагладзіць таго сабачку, аднак нельга, не паложана.

Пазней, перад адбоем, урачыстасць, якою канчаецца кожны дзень, вячэрняя паверка.

Застава выстраена на тым самым пляцы каля помніка. Першым называецца імя былога начальніка, Героя Савецкага Саюза. Пакуль страляла рука, пакуль дыхалі грудзі, баранілі байцы родную зямлю. І ўсе чыста палеглі — ад першага да апошняга...

Назаўтра не заўважылі, калі і як, час гасцін мінуўся. Прыбыло ўражанняў, знаёмстваў, нават такія-сякія радкі зараіліся.

На расстанне поціскі рук — ад душы, пальцы млеюць — ну і, вядома, узаемныя пажаданні поспехаў.

Учарашняя бліскучая дарожка прыцярушана снегам, едзем даўжэй. А мне ўсё нецярплівіцца: калі ўжо тое Гродна! Двое сутак няма вестак, як там дома, што з хворым.

На жаль, тэлефонная размова не дала палёгкі. Голас у Гаспадыні быў засмучаны: дома не папепшала, Дзік не ўстае і ежы не прымае... Ветэрынар заходзіць штодня, стараецца дапамагчы. А больш паціскае плячыма: „Дзіва, як з яго духі не выбілі. Скура ж — рана на ране, струп на струпе".

І мне адразу ўявілася Дзікава кватэра — куток паміж буфетам і дзвярыма на тэрасу. І там дажывае, можа, апошнія хвіліны сябар.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

З гісторыі Беларусі

# КАПЫЛЬ

Там, дзе зараз Капыль, стаяў замак багатага князя, і была ў яго адзіная дачка, ды такой прыгажосці, што здавалася, нібы само сонца пасялілася ў гэтых змрочных сутарэннях. Дзяўчына жыла ў самым верхнім пакоі высачэзнай вежы. Не дазваляў ёй бацька нават уніз сыходзіць, не тое што з дваровымі пагаварыць. Толькі зверху, праз вузенькае акенца, магла яна пазіраць на наваколле.

Але аднаго разу здарылася нечаканае — князёўна пачула дзівосную мелодыю. Рызыкнула яна, пераапранулася ў сялянскую вопратку, непрыкметна для варты спусцілася з акна за вал і пабегла да возера, адкуль неслася мелодыя. Там убачыла маладога пастуха-прыгажуна, што сядзеў на купіне і іграў на жалейцы. Калі ён заўважыў дзяўчыну, то вачэй не мог адвесці ад яе. Пагаварылі яны і дамовіліся пакатацца ў чоўне. Пры расстанні паабяцалі адзін аднаму сустракацца кожны вечар. Так працягвалася усё лета, бо князь паехаў са сваёй дружынай ваяваць, а слугі не здагадваліся, што князёўны не бывае дома.

Неўзабаве гаспадар замка вярнуўся дадому з багатай здабычай і паведаміў дачцэ, што збіраецца аддаваць яе замуж за аднаго з далёкіх вяльможных суседзяў. Загаравала дзяўчына, сказала пра гэта каханаму. Вырашылі яны збегчы. У адну са страшных рабінавых начэй, калі найшла навальніца і безупынна білі маланкі ды грымеў гром, пастух падплыў на чоўне да самага вала. Кінулася князёўна да яго і паплылі яны да супрацьлеглага берага. Хвалі залівалі човен, але ўцекачы усё ж аддаляліся.

Стары князь нечага пайшоў да дачкі ў пакой і не знайшоў яе там. Загарлаў валадар замка на шматлікіх слуг і дружыннікаў:

— Не ўберагліі! У пагоню! Знайсці яе!

У гэты момант вартавы з вала крыкнуў:

— Княжа, вось яны!

Усе кінуліся да яго. Дружыннік выцягнуў руку ў бок возера. І сапраўды, калі бліснула маланка, заўважылі човен.

— Схапіце іх! — узвыў князь.

Але зноў бліснула маланка, і чоўна на вадзе ўжо не ўбачылі — заглынула яго сквапнае возера.

А месца тое сталі называць Копыль, бо каханых звалі Коля і Поля. Вось стуль Капыль і пайшоў.

**Аляксей Ненадавец**

# БЕЛАРУСКІЯ ЖАРТЫ

— Сведка, як ваша імя і прозвішча?
— Мікола Касаты.
— Колькі гадоў?
— Восемдзесят два.
— Дзеці ёсць?
— Нямашака.
— Сакратар, запішыце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам вядома ў гэтай справе.
— Іду я, значыцца, са сваім сынам Гаўрылам...
— Пачакайце. Вы ж казалі, што ў вас дзяцей няма?
— Але, няма...
— Ну, кажыце далей...
— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...
— З сынам Гаўрылам? Вы ж кажаце, што ў вас дзяцей няма.
— Ну, няма.
— А сын Гаўрыла?
— Якое ж гэта дзіця?.. Яму пяцьдзесят гадоў ужо стукнула!

* * *

— У першым класе ідзе ўрок чытання. Пятрок чытае подпіс пад малюнкам па літарах:
— Сы-у-мы-кы-а...
— Ну, і што атрымаецца?
— Торбачка.

* * *

Дзед даў маленькай Юлі яблык.
Юліна маці. Дачушка, а што ж трэба сказаць за гэта?
Юля. Дзядуля, дай яшчэ і маме.

* * *

Пякла маці аладкі, а дачушка Тося круцілася каля яе ды і кажа:
— Чаму ты, мамка, са мною не гаворыш?
— А што я буду табе гаварыць?
— Ну хоць што... Вось сказала б: „На табе, Тося, аладачку..."

* * *

Вова гуляў на двары ў футбол і разбіў сабе нос. Прыйшоў дадому. Плача. А бацька і кажа:
— Я так і ведаў, што гэта будзе.
Вова праз слёзы:
— Калі ты ведаў, дык чаму ж мне не сказаў?

* * *

Маці. Чаму ты, сынок, нічога ў пару не робіш? Помні, што адклад не ідзе на лад.
Сын. Ах, калі так, мамачка, дык тады дай мне сягоння тыя цукеркі, што ты схавала на заўтра.

* * *

Канферансье. Зараз фокуснік будзе глытаць салому, іголкі, цвікі...
Хлопчык. Мама, а чаму ён нікому не скардзіцца, што яго гэткай дрэнню кормяць?

* * *

— Цёця, у вас няма дзяцей?
— Няма, дзіцятка.
— А чаму?
— Бо яшчэ не купілі.
— То вы, мусіць, на халадзільнік грошы збіраеце?



*Праз пару гадоў зноў сустрэнуся з "Зоркай", калі зведаю буквар.*
**Фота Юркі Паплаўскага**

*Сурэн Мурадзян*

## СПРЭЧКА

Ходзіць бусел
Каля жабкі.
А яна яму:
— Кве-кве!
У мяне —
чатыры лапкі,
У цябе ж —
іх толькі дзве...

Расхвалілася — аж млее,
Асмялеўшы пакрысе:
— Тут усе мае лілеі!
І гарлачыкі —
усе!
Я —
балота валадарка.
Тут —
мая ўся гаспадарка!..

Пасмяяўся
Бусел з жабкі:
— Ты б хвалілася цішэй.
Дзве нагі мае
За лапкі
За твае
У сто разоў вышэй.
Я дарэмнай
Гэтай спрэчкі
Нават слухаць не хачу,
Над балотамі, над рэчкай,
Дзе жадаю — там лячу.
Ты ж сядзіш спрадвек, нябога,
Пасярод сваіх балот...
А яна ізноў:
— Ні ў кога
Больш не знойдзеш
Гэткі рот!
Аж паўсотні камароў
З'ем ураз —
І будзь здароў!

— У мяне, —
гаворыць бусел, —
Дзюба доўгая,
Зірні...

— А я дзюбы
не баюся!
Што карысці ў даўжыні?

Не сцярпеў тут бусел —
Жабку
Ухапіў ямчэй за лапку.
Знікла ў дзюбе валадарка.
Тут і скончылася сварка.

## ТРЫ ПЫТАННІ ЛІСЕ

— Скажы, Ліса, хто хвост
Твой гэтак абадраў?
— Сабака пастухоў
Уночы абкусаў.

— Ну, а чаму, скажы,
Кульгаеш ты, Ліса?
— Зляцела з седала,
Вось і разгадка ўся.

— А як жа ты, ліса,
Жыць думаеш далей?
— Папраўлюся — і зноў
Пушчуся да курэй.

# НАШЫ ГУЛЬНІ

**„Жывыя гукі"**

Дыдактычная задача. Замацоўцаць уменне аналізаваць гукавы склад слова.

Матэрыял. Фішкі для абазначэння гукаў.

Змест. Гульня праводзіцца пасля таго, як дзеці разбяруць гукавую структуру слова і пабудуюць з дапамогай фішак яго мадэль.

Настаўнік выклікае некалькі вучняў (па колькасці гукаў у слове). Выклікаць можна рознымі спосабамі ў залежнасці ад узроўню падрыхтоўкі дзяцей. Напрыклад: „Наташа будзе першым гукам у слове *дом* — гукам *д*. Ідзі, Наташа, вазьмі сваю фішку. У якой клетачцы яна стаіць? Правільна, у першай. Віця — другі гук у слове *дом* — гук *о*. Апошнім гукам у слове *дом* будзе Оля. Вазьмі сваю фішку. Які ты гук?" Дзеці павінны хутка выйсці да дошкі і ўзяць свае фішкі.

Магчымы такі варыянт выкліку: „Гуляць будуць тыя дзеці, якія адгадаюць мае загадкі. Які другі гук у слове *кот*? Які першы, трэці?" Той, хто правільна адкажа, бярэ на сябе ролю гука.

Пасля таго як усе выкліканыя дзеці возьмуць са схемы слова фішкі, яны павінны стаць каля дошкі так, каб скласці аналізуемае слова. Астатнія вучні разам з настаўнікам правяраюць правільнасць пабудовы слова, водзячы ўказкай злева направа і „чатаючы" яго.

Затым настаўнік адыходзіць ўбок і гаворыць: „Да мяне падыдзе другі гук у слове, першы, трэці". Называць гукі або іх парадкавыя нумары можна ўраздбіўку або па парадку.

У пачатку навучання, калі ў дзяцей яшчэ мала ведаў аб гуках ва будове слова, заданні ў гульні не складаныя і маларазнастайныя. Па меры таго як дзеці атрымліваюць звесткі аб галосных, цвёрдых і мяккіх зычных гуках, націску, гульня ўскладняецца. Напрыклад, „Коля — першы галосны ў слове *міска*, Віця — другі галосны, Каця — першы цвёрды зычны, Слава — другі цвёрды зычны, Насця — мяккі зычны". Або: „Лена — націскны галосны гук у слове *цукар*, Коля — ненаціскны галосны" і г.д.

У любым выпадку выклікаць дзяцей неабходна ў хуткім тэмпе. Таму больш простыя заданні даюцца слабым дзецям, складаныя — моцным. Ускладняюцца, робяцца больш разнастайнымі заданні па меры павелічэння аб'ёму ведаў дзяцей аб гуках і іх якасных асаблівасцях: „Падыдзі ненаціскныя галосныя, другі цвёрды зычны" і г.д. Удзельнікі гульні падыходзяць і становяцца ў патрэбнай паслядоўнасці. Астатнія правяраюць правільнасць пабудовы слова.

У заключэнні гульні „гукам" можна даць розныя заданні (спачатку іх дае настаўнік, а затым дзеці). Напрыклад: „Гук *л'* (слова *ліст*), пакружыся; гук *с*, адгадай загадку: „Без акон, без дзвярэй поўна святліца людзей"; гук *т*, назаві пару свайго гука (*ц*); гук *і*, назаві словы са сваім гукам (*Іра, ірыс, ігруша*). Заданні могуць быць самымі разнастайнымі (назаві свой адрас, раскажы верш, праспявай песеньку, назаві слова з націскным галосным *о* і да т.п.), але не трэба захапляцца імі і забываць аб асноўнай мэце гульні.

Выканаўшы заданне, „гук" ставіць фішку ў адпаведную клетачку схемы слова і садзіцца на сваё месца. Дзеці за сталом правяраюць правільнасць пабудовы слова.

# ІКОНЫ

### Частка III

На працягу многагадовых фальклорных даследаванняў я часта пытаў усходнебеластоцкіх беларусаў пра іх погляд на іконы або пра ролю іконаў у іх жыцці. Трэба сказаць, што адказы на такія пытанні былі вельмі разнародныя. Іх эмацыянальны і рэлігійны дыяпазон быў вельмі шырокі. Прагну тут прывесці найбольш характэрныя суджэнні беларусаў з усходняй Беласточчыны на гэту тэму.

Вось выказванні Васіля Казберука з вёскі Бандары, які жыў прыблізна ў 1875—1960 гадах. Размова з ім была праведзена ў 1958 годзе.

„Пра іконы пытаеш? Заўшэ былі яны па нашых хатах. Розныя былі. Калісь та найбольш было дзерауляных, а после то ўжэ пашла мода на такія, што за сцяклом. Калі ўжэ паявіліся гэты за сцяклом, то тыя дзеравяны пачалі людзі выносіць у клуні і свірні, а ў хатах на іх месца вешалі сцекляныя, бо то нібы яны ўжэ харошчы. Ну, было па-рознаму, да першае міравое то было многа такіх хат, у якіх было па дваццаць, а то і трыццаць іконаў. Усе сцены былі завешаны, а пасля то якэе пачало ўб'яўляцца і после вайны то найчасцей у каждай хаце па дзве, па тры іконы.

Трэба яшчэ сказаць, што па царквах або па манастырах то былі чудатворны іконы, такія пры каторых адбываліся розны чудзеса. Ну, да такіх іконаў то ішлі людзі па сотнях вёрстаў. Вядома, што ў кожнага чалавека то якаясь там бяда е. Калі чалавекаві жывецца добра, то ён забывае і пра іконы, і пра малітвы, і пра Бога, але калі прыцісне бяда, то тады, нібось, адразу і рэлігійнасць паяўляецца. Ты ж знаеш такую прыказку: „Як трывога, то да Бога, як па трывозі, то і па Бозі".

Пытаеш, якое значэнне мае ікона для праваслаўнага беларуса. То як тут табе сказаць. Думаю, што гэтае значэнне то яно важнэ. Ну, бо ты сам паглядзі. Хрысціцца чалавек з іконаю, жэніцца з іконаю, уміраe з іконаю. Хто яго ведае, можэ гэто і неправільно, але якэе наш народ верыт і верыт, што ікона то яна можэ нам і памагчы, і пашкодзіць. Многія людзі то верат, што ікона са сцяны ўсё бачыт. Таму перад ёю ні трэбо рабіць ніякіх кепскіх паступкаў.

Ты ведаеш, брацішко, мне нілоўко аб гэтым гаварыць, але бывало, мая Палашка, калі я да яе ў маладосці, бывало, у дзень палезу, возьме і скажэ: „Васіль, ты ўстыду ні маеш, бо ж Мацер Божа з іконы глядзіт. Пажджы да вечара". Ну чы ж гэто ні дурнота?! Чы ж можэ быць такое, каб ікона бачыла ў дзень, а не бачыла ночу? Па-моему адзінакаво бачыт. А кроме гэтого Бог сказаў, каб людзі пладзіліся і размнажаліся.

Сам ведаеш, што ў нас тут, у Бандарах, Рыбаках, Багнюках, то народ ні вельмі веруючы. Гэто ні тое, што за рэчкаю. Там была паншчына і паны ўвагналі ў мужыкоў моцну веру. А ў нас былі жандовы вёскі і ніхто нікого да веры ні прымушаў. От таму ў нас мужчыны ў цэркву ні ходзят. Толькі адзін Петрук Баршчэўскі ходзіт раз у рок у Ляўково на свято Пятра і Паўла. Але іконы е ў кожнуй хаці. Навет Янучко Бура, хоць ён і моцны бязбожнік, і з усімі юшкаўскімі папамі грызецца, мае ў хаці іконы.

Я табе, брацішку, скажу так, што калі б з хаты хто выкінуў іконы, то зрабіласё б якэе так дзіко. Ну ўсё адно як у хляве. А мы ўсё ж такі хрысціяне. То як жэ нам жыці без іконаў? Там жэш і Мацяр Божа, і Распяцце Хрыста, і ўздзвіжэнне святого Крыжа, і многае што другое з таго, што напісано ў Біблії. Гэта ж усё пашло ад дзядоў і прадзедоў.

Ну, а ты скажы: чы то праўда, што ўсё гэто хрысціянство жыды прыдумалі"?

**Алесь Барскі**

# СВЯТАЯ МУЧАНІЦА ЛЮДМІЛА



Была яна дачкой сербскага князя. Аддалі яе замуж за чэшскага князя Барывоя. У гэты час на тэрыторыі тадышняй Чэхіі царствавала яшчэ язычніцтва, хаця ўжо з аднаго боку даходзілі сюды нямецкія місіянеры лацінскага абраду і з другога — працягвалі сваю місію Святыя Кірыла і Мяфодзій.

Праз нейкі час пасля шлюбу Барывой і Людміла прымаюць хрышчэнне ад Святога Мяфодзія, які быў архіепіскапам суседняй Маравіі. Разам з князёўскай парай хрысціцца многія іх падданыя. Неўзабаве пасля смерці свайго мужа Святая Людміла пераязджае ў Прагу і там на двары свайго сына Враціслава (Братыслава —?) выхоўвае ў праваслаўнай веры свайго ўнука Вячаслава. Пасля смерці бацькі крайнай стаў валодаць малады князь Вячаслаў. У той час маці Вячаслава, Драгаміра, паўторна вярнулася ў паганства і стала ненавідзець Св. Людмілу. Тая пакідае Прагу і пераязджае ў Дзечын. Аднак ахопленая нянавісцю сынавая не хоча пакінуць яе ў спакоі. Драгаміра ўгаварвае двух баяраў і тыя ноччу ўрываюцца ў памяшканні Св. Людмілы і душаць яе шнурком. Здарылася гэта ў 927 годзе. Святой Людміле быў тады 61 год. Пахавалі яе пад гарадскімі мурамі. Кожную ноч у гэтым месцы з'яўляліся палаючыя свечкі, а само месца праславілася многімі цудамі. Напрыклад, аднаму сляпому быў вернуты зрок, калі той дакрануўся зямлі на магіле Святой. Неўзабаве князь Вячаслаў перанёс Святыя Мошчы ў царкву Св. Георгія ў Празе і незадоўга яе тут кананізавалі.

Памяць Святой Мучаніцы Людмілы, чэшскай княгіні, ушаноўваем 29 верасня (16.09 па старому стылю).

**С.Н.**

# Абнаўленне храма Уваскрэсення ў Іерусаліме

Царква Уваскрэсення Хрыстова была збудавана дзякуючы імператару Канстанціну Вялікаму. Ягоная маці, імператрыца Елена, якая ў 326 годзе знайшла Крыж Гасподні, ачысціла Іерусалім ад язычаскіх збудаванняў і сімвалаў. У святых месцах, звязаных з Хрыстом, пабудавала яна многа храмаў — між іншым у Віфлееме, на Елеонскай Гары, у Гефсіманіі. Самым вялікім храмам была царква Уваскрэсення Хрыстова. Будаваць яе пачалі неўзабаве пасля знаходкі Святога Крыжа, а закончылі праз 10 гадоў. Перад гэтым месца распяцця Збавіцеля было засыпанае зямлёй і каменнем. Над ім імператар Адрыян узвёў язычаскую бажніцу Венеры, а над недалёкім месцам Магілы Гасподняй паставіў статую аднаго з бажкоў. Разбураны ўпершыню ў 70 годзе Цітам, а пасля чаргового яўрэйскага паўстання ў 135 г. — Адрыянам, Іерусалім меў назаўсёды знікнуць з твару зямлі, а разам з ім — і месцы звязаныя з Ісусам Хрыстом. Яго новая назва гучала Элія-Капіталіна. Прайшоў час Адрыяна і іншых, і Промысел Божы намаганнямі Святой Елены адкрыў для нас гэтыя святыя месцы.

Храм Уваскрэсення Хрыстова атрымаўся настолькі вялікі, што яго сцены былі абведзены месцы і Магілы Гасподняй, і Яго распяцця (Іаан, 19:41—42). Імператрыца Елена не дачакала завяршэння будовы храма, паколькі памерла ў 327 годзе. Пабудову закончыў імператар Канстанцін. Асвячэнне царквы адбылося **13 верасня 335 года**, а справілі яго Айцы Сабора ў Ціры на 30-тым годзе панавання Канстанціна Вялікага.

Тады было таксама ўстаноўлена, каб штогод адзначаць гэты дзень (мы святкуем 26.09, або 13.09 па старому стылю), каб узнаўляць у памяці хрысціян асвячэнне іерусалімскага храма ў гонар Уваскрэсення Хрыстова.



Гэтае святкаванне мае свой пачатак у Старым Запавеце, у прыкладзе ачышчэння Іудам Макавеем Святога Святых Іерусалімскага храма (1 Мак., 4: 36—59), якое было аганьбаванае язычніцкімі ахвярапрынашэннямі сірыйскіх захопнікаў. Аб абнаўленні ўспамінае і Евангелле (Іаан, 10:22). Так, як у Старым Запавеце Макавей, так і ў Новым Запавеце імператар Канстанцін пабудаваў новае Святое Святых і ўстанавіў разам са Святымі Айцамі святкаванне Абнаўлення або асвячэння вялікага іерусалімскага храма, які з'яўляецца маці ўсіх цэркваў.

З 335 года, зараз на другі дзень пасля Абнаўлення Храма Уваскрэсення, **14 верасня (27.09 паводле новага календара)** пачалі святкаваць Уздзвіжанне. Дзень Абнаўлення такім чынам з'яўляецца адначасна перадсвяточным днём вялікага двунадзесятага свята Уздзвіжання Святога і Жыватворнага Крыжа Гасподняга.

Знаходка Крыжа Гасподняга была прычынай дзеля таго, каб у такі спосаб ушанаваць і асвяціць месца, на якім здзейснілася наша збавенне і на якім разбураны храм цела Хрыстовага быў адбудаваны на працягу трох дзён (Іаан, 2: 19, 21; а таксама Матф., 27:40 і Марк, 14:58, 15, 29).

**С.Н.**




**Да палемікі праф. Вандала Арлянскага і Барыса Штотыднёвага з Глебам Штодзённым у „Ніве" ад 21 жніўня 1994 г.**

Калі чую, як за сцяной сварацца суседкі — гэта справа іх і іншых суседзяў. Ніколі такая сварка не цікавіць грамадскасці ўсяго жыллёвага блока, тым болей пасёлка або цэлага горада. Але калі „сварацца" інтэлектуалы, хай сабе і беластоцкія, гэта прыкмета пазітыўная, тым болей, што нарэшце сварыцца эліта, самыя прафесары, як не кажы. Шкада, што скрываюцца яны за псеўданімамі.

І не найважнейшае тут, хто трапіць у анталогію „белавежскай" літаратуры (глядзі „Ніва" ад 31 ліпеня г.г. — „Багатая анталогія ці багаты даведнік?"): ці прафесіяналы, ці журналісты і карэспандэнты „Нівы". Куды важнейшай справай з'яўляецца пачатак у нас літаратурнай і прафесіянальнай крытыкі. Бо цяпер я, бедны чытач творчасці „белавежцаў", вельмі разгублены. Люблю чытаць вершы В. Шведа, М. Багдановіча, Я Коласа, Я. Чыквіна, А. Барскага, крыху менш Надзеі Артымовіч, Зосі Сачко, Міхася Шаховіча, а зусім не чытаю жыццёвых замалёвак „Аўроры" — Ірэны Лукшы, але не ведаю, ці не інакш трэба мне цікавіцца літаратурай. Калі бракуе крытычных публікацый, чытачу цяжка разабрацца, хто прафесіянал, а хто графаман, і ці творчасць „Аўроры" з'яўляецца „запхайдзірай" на старонках „Нівы", ці наадварот, высакародная мастацкая творчасць, не гаворачы ўжо пра „публіцыстыку" М. Панфілюка. У каго шукаць думак як жыць, хто нас панясе па цудоўным Беластоцкім краі, адкрываючы краявіды, якія можа заўважыць толькі вока паэта і мастака, хто ўзбагачае душу чалавечую — гэта пытанні, на якіх адказ трэба шукаць у „белавежцаў", але не дай Божа ў графаманаў, бо ніхто не хоча асмяшыцца.

Асяроддзе „белавежцаў" вельмі сціплае, і сяброўскае, затым як можна крытыкаваць сябра. Гэта ж нават немаральна падкладаць свінню сябрам. Так наогул творцы ўспрымаюць крытыку. І таму на пальцах адной рукі можна палічыць крытычныя артыкулы ў „Ніве" ці ў календарах. З апошняй „Нівы" даведаўся я, што Васіль Петручук страціў асабістага крытыка з Дубіч-Царкоўных. Сумаваць не трэба, паявіўся другі прынцыповы крытык, Сцяпан Абух, які абухом б'е між вочы „Сумленню Народу". Цікава, на які мазоль ці хутчэй абух, наступіў пісьменнік (якога той называе Сумленнем Народу) Сцяпану Абуху. Але як я ўжо сказаў, з гэтай „сваркі" можа нарадзіцца нешта новае, прагрэсіўнае, і не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў грамадскім жыцці. Пры нагодзе думаю, што молатамі і абухамі ў палеміках ваяваць не трэба. Заклікаю змагацца пры дапамозе аргументаў і да таго на еўрапейскім узроўні. Няхай старонкі „Нівы" поўняцца высакароднай крытыкай і цікавай публіцыстыкай. Усё ж Беласточчына жыве і трэба гэтае жыццё паказваць. Інакш песімістычныя замалёўкі „Аўроры" пра Анэту і Крыштафа або іншых нешчаслівых жыхароў мястэчак і вёсак стануць эрзацам літаратуры не вельмі ўспрымальным, думаю, не толькі для мяне.

**Міхась Махнацкі**

Ад рэдакцыі: З жалем інфармуем, што Глеб Штодзённы, Вандал Арлянскі, Барыс Штотыднёвы, Міхась Махнацкі, Сцяпан Абух — гэта псеўданімы. Шкада, што літаратурны рух і яго крытыка апынуліся ў канспірацыі. Быццам бы яны ёсць, а адначасова — няма іх.

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

(3)

### Паўвека таму

Першыя партызанскія групы ў Кнышынска-Беластоцкай пушчы пачалі ўзнікаць летам 1941 года. Арганізоўвалі іх, між іншым, Ян Цімашэнка (яго псеўданім „Афанасьеў"), Сяргей Лёўкін, Дзмітры Новікаў („Мішка"), Фёдар Парфянюк („Рыгор"). У 1943 годзе дзейнічала Брыгада імя Кастуся Каліноўскага, якой былі падпарадкаваны атрады „Звязда", імя Матросава, „Камсамола Беларусі", „26 год Кастрычніка" і ад вясны 1944 года атрад таксама імя К. Каліноўскага, якім камандаваў Аляксей Карпюк са Страшава. Групы супрацоўнічалі з існуючым у Беластоку Антыфашысцкім камітэтам.

Баявыя дзеянні партызанаў адбываліся перш-наперш уздоўж прасякаючых пушчу камунікацыйных шляхоў (чыгугачная лінія з Беластока ў Саколку, з Беластока ў Ваўкавыск і таксама шашы з Беластока ў Гродна і ў Мінск). У іх выніку знішчаны былі шматлікія гітлераўскія вайсковыя транспарты, якія былі накіраваны на ўсход, а ў пазнейшы перыяд — цягнікі вязучыя параненых на фронце салдат ды награбленае дабро.

У ліпені 1941 года ў вёсцы Коматаўцы затрымаўся і знайшоў прыстанішча былы афіцэр Савецкай Арміі Ян Вырва, які карыстаўся псеўданімам „Сібірак". Разам з некаторымі мясцовымі жыхарамі Канстанцінам Баркоўскім, Міхалам Гедзічам, Віктарам Рагацэвічам і іншымі абсталявалі радыёстанцыю, сабралі даволі багата боепрыпасаў, агнястрэльнай зброі, толу-ўзрыўчаткі. Дзейнічалі ў раёне вёсак Коматаўцы, Баброўнікі і ў ваколіцы. Мясцовай партызанскай групай камандаваў былы афіцэр Дзмітры Новікаў („Мішка"). Яна ўзарвала, між іншым, вайсковы транспарт забеспячэння, накіраваны на ўсход па чыгуначнай лініі з Беластока ў Ваўкавыск. На шашы ў тым самым накірунку спаліла некалькі нямецкіх вайсковых грузавікоў. Забіла агента гестапа „Ламаноса" і іншых канфідэнтаў.

Адна з пяці партызанскіх груп — лейтэнанта „Колькі" дзейнічала ў наваколлі вёсак Случанка і Дзернякова (у апошняй з іх меў прыстанішча лейтэнант Сяргей Лёўкін). У гэтай аколіцы ў партызанах былі, м. інш. Раман Мордань і Антон Завадскі з Валілаў, Канстанцін Грыцук („Арцём") з Пяшчанікаў, Юзэф Бурса („Сцяпан") з Навасёлкаў, Юзэф Храноўскі і Міхал Храноўскі („Цішка") з Дзернякова, Фёдар Парфянюк з Залукаў, капітан Цімашэнка („Афанасьеў"). Тут добра вялася разведка.

Група Дзмітра Парфенюка мела сваю партызанскую зямлянку каля вёскі Папоўка і дзейнічала ў лесе ў раёне Залукаў, Пяшчанікаў і Папоўкі. Вяла дыверсійную работу. Партызаны ўзарвалі цягнік на чыгуначнай лініі Беласток — Саколка, пакаралі смерцю нямецкага палкоўніка Тыбінга. У Кнышынска-Беластоцкай пушчы партызаніла не менш сотні чалавек.

3 ліпеня 1943 года за супрацоўніцтва з партызанамі беластоцкае гестапа спаліла вёску Папоўка і расстраляла ўсіх яе жыхароў. Калі партызаны пацярпелі вялікае паражэнне на Беласточчыне, былі вымушаны пайсці на ўсход — у палескія вёскі, размешчаныя ў Гуцянскіх лясах. Тут уступілі ў атрад імя Суворава, якім камандаваў лейтэнант Канстанцін Казакоў.

Вясною і летам 1944 года актыўную дзейнасць у Ліпніцкіх лясах каля Страшава ды ў ваколіцы вёсак Грыбаўцы, Валілы, Скраблякі і Міхалова праявіў партызанскі атрад імя Кастуся Каліноўскага, якім камандаваў Аляксей Карпюк, родам са Страшава. Налічваў ён больш 50 чалавек. Партызаны пусцілі ў адхон тры цягнікі з боепрыпасамі і нямецкімі салдатамі, здымалі провады тэлефоннай лініі, разбуралі вакзальную апаратуру (між іншым у Валілах і Саколі), чыгуначныя стрэлкі ды чыгуначную лінію, разбівалі адступаючыя з фронту нямецкія калоны і табары. Найбольшы батальён нямецкіх пехацінцаў (250 чалавек) разбілі 20 ліпеня 1944 года супольна з партызанскім атрадам „Звязда". Узялі ў палон камандзіра батальёна і іншых немцаў. Здабылі важныя вайсковыя дакументы і многа зброі.

Варта адзначыць асаблівую ахвярнасць і заслугі ў змаганні з гітлераўцамі наступных партызанаў: Любы Трахімчук-Яроцкай і Аляксея Яроцкага з Дзернякова, Аляксандра Кардаша з Валілаў, Аляксандра Янкевіча са Скраблякоў, Дзмітра Карповіча з Грыбаўцоў і Канстанціна Карповіча з Гарадка.

У 1977 годзе за актыўнае супраціўленне гітлераўскаму акупанту і за выдатную дапамогу партызанам Гарадок быў узнагароджаны Крыжам Грунвальда III класа.

### Пасляваенны перыяд

Зараз пасля вызвалення Гарадка ў 1944 годзе ўдалося пусціць у рух станкі даўнейшай фабрыкі Рафальскага. Найперш у ёй часалі воўну, пазней выконвалі паслугі для навакольнага насельніцтва. У 1950 годзе пабудавалі трыкатажную фабрыку, у якой у 1969 годзе працавала каля 400 асоб. 1957 год з'яўляецца пачаткам рэгуляцыі ракі Супрасль. Сяляне самі пачалі капаць меліярацыйныя равы, з мэтай загаспадарыць забалочаныя сенажаці. У 1959 годзе быў пабудаваны асяродак здароўя. Працуюць кафлярня, млын, завод газіраваных напіткаў. Новую школу пабудавалі ў 1960 годзе. У тым жа годзе Гарадок налічваў каля 1500 жыхароў.

6 чэрвеня 1965 года ў Гарадку адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Кастусь Каліноўскі, праслаўлены правадыр Студзеньскага паўстання 1863 года, нацыянальны беларускі герой, таксама адсюль — з вёскі Мастаўляны. Прасторны Дом культуры з'яўляецца найбольшым помнікам ахвярнасці гарадчан.

У 1970 годзе ў мястэчку пражывала 1782 чалавекі. Гарадоцкую прамысловасць прадстаўляла трыкатажнае прадпрыемства „Каро" — філіял Сядлецкага прадпрыемства. У 1979 годзе былі ўжо пры ім уласная завадскія амбулаторыя, дзіцячы сад і яслі, свая сталовая. У 1979 годзе Гарадок налічваў 2144 асобы, у тым 1155 жанчын і 989 мужчын. У тым жа годзе ахрысцілі 74 дзяцей, пад вянец стала 23 пары маладажонаў і памерлі 32 чалавекі.

У цэнтры Гарадка відавочны ёсць след па колішнім базарным пляцы ў форме трапецы. Такая сістэма вуліц выводзіцца з даўніх трактаў-шляхоў. Адзіным помнікам даўніны з'яўляецца гарадзішча „Замкавая гара", месца дзе стаяў замак Хадкевічаў. У цэнтры мясцовасці ўзвышаецца вельмі прыгожая царква з фрэскамі і вітражамі. Папярэдняя згарэла ў 1943 годзе. Пабудову новай пачалі ў 1946 годзе і закончылі ў 1970 годзе.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

---

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 4. Zambaro

Рэспубліка Замбара (сталіцай, што можна праверыць на любой карце, горад Замбара) займае ў свядомасці зонаўца выключнае месца. Як і ўвесь лімонна-каланіяльны свет, Замбара гаворыць сваім варыянтам англьскай мовы, г.зв. Trasian English (трэйшан інгліш), які ў рэспубліцы з'яўляецца дзяржаўнай мовай. Дзе-нідзе сустракаецца яшчэ карэнная мова — замбаран (*ангель.:* Zambarian). Але ейны абсяг зведзены амаль выключна да жыхароў замбарскага бушу. Сучаснаму ж замбарскаму гараджаніну завучыць тую карэнную мову — звыш жыццёвай амбіцыі і магчымасці. Ёсць паміж беларускай мовай Зоны і сучасным замбарскім трэйшан адзін вялікі выходны пункт — абедзве выяўляюцца кірылічным пісьмом. *Замбара-с хрэйт-эн-бусіфуль* (Замбара вялікае і прыгожае) — пішуць і чытаюць у школе замбарскія дзеткі. Або: *Замбаран воз але націў мова* (Замбарская была нашай роднай мовай).

Замбара наведаў я, на жаль, толькі раз. Паехалі туды ўчатырох: Бабко, я, Артадокс Бяроза (калега і супрацоўнік Артадокса Хмялькоў „Месячніку") ды мой калега з „Гоняў" Лёлік Назарэз. Паехалі мы ў замбарскую сталіцу на навуковую канферэнцыю. Тэма яе датычыла „Моўных аспектаў перакладу першага тому Агульна Абавязваючых Прынцыпаў Любагорска на трэйшан". Як прафесійнага ўдзельніка ўсякіх канферэнцый, тэма гэтая, разумееца, прыцягнула ў Замбара і Апалона Дзванко, а таксама шмат каго яшчэ з Зоны.

Зноў жа спатрэбіцца тут невялікае пояснение. Любагорск, ажыццяўшы на сваім грунце Агульна Абавязваючыя Прынцыпы (завяршэннем чаго была крышталізацыя ідэі Зоны), стаў моцна выпраменьваць сваю ідэалогію навонкі. Працэс гэты характэрны быў хуткім ростам вучылішч для прапаведнікаў ААП, ВМЗ ці звычайнай узаемнай любові. Адчыняліся таксама паскораныя курсы рыторыкі. Армія прапаведнікаў шпарка рушыла ў свет, пупам якога, здавалася ўсім нам, быў Любагорск. Шмат іх трапіла ў Замбара...

Замбарцы пра Зону ведаюць. Але прызнаюць у ёй адну Асацыяцыю народнай песні і танца. Нічога надзвычайнага, дарэчы, у такой трактоўцы няма. Сесяль Ябко (прэзідэнт Асацыяцыі) — амаль грамадзянін Замбара, пра што згадвалася ўжо раней. Ёсць тут яшчэ адна прычына — замбарскія інтэлектуалы заўважаюць паралелі паміж народнай песняй і танцам Асацыяцыі ды карэнным Замбаран Вуду.

У аэрапортнай мытні смуглявы афіцэр, убачыўшы ў растрыбушанай торбе маё настольнае выданне „Замбаран але аноўн мова" (Наша замбарская невядомая мова), доўга рагатаў ды рабіў непрыстойныя жэсты. Юру Бабко раскруціў усе мікрафоны, Бяроза пад аўтаматам пайшоў у асобную камеру, адкуль адпусцілі яго пасля паўгадзіны, безграшовага. Лёліка Назарэза, лічы, што і не кранулі.

Месцам нашага прыпынку ў замбарскай сталіцы стала чатырохбульбовая гасцініца „Замбаран-Ін", куды, праз вузкія базарныя вулачкі, дакаціліся мы на таксоўцы. У паветры стаяў пах печанай бульбы з лімонам, традыцыйнай у Замбара ежы...

Справа перакладу першага тому Агульна Абавязваючых Прынцыпаў на замбарскі трэйшан была першым крокам у напрамку пераймання гэтай дзяржавай ідэалогіі Любагорска. Пасля доўгіх кансультацый і перамоў інтэлектуальнае асяроддзе Замбара дайшло да вываду, што трэба склікаць Камісію перакладу ААП. Вырашэнню гэтага пытання мела служыць канферэнцыя „Моўныя аспекты...". Этап перамоў не быў пазбаўлены і такіх галасоў, што трэйшан яшчэ не надта спелая мова, каб перадаць усю вытанчанасць гэтага фундаментальнага дакумента. Без галасоў такіх не абышлося і ў час першых нарадаў канферэнцыі, у якой удзел прымалі палітыкі, грамадскія дзеячы, філолагі, паэты...

Я ўзяў з сабою „Замбаран але аноўн мова", бо меў надзею, што знойдзецца якая хвіля, каб выпусціцца ў буш ды пазнаёміцца з тою карэннай мовай Замбара, пра якую ведаў толькі з гэтай папулярнай кнігі. Нічога падобнага не сталася. Але, калі аднаго вечара пайшоў я з Артадоксам Бярозай на дзевяты паверх „Замбаран-Ін" пацягваць ды скаштаваць мясцовага напою „замбарарэз", прыселіся да нас дзве цыцатыя, адрозныя смуглявасцю, замбаркі. Думаю, што заклікаў іх бармен, калі мы расплаціліся яму любагорскімі палюбоўнікамі, а не мясцовай валютай. Гэта і была тая чаканая мною хвіля, бо хаця з намі жанчыны размаўлялі на дзяржаўнай, то між сабою шчабяталі на нечым зусім на трэйшан непадобным. Я адчуў, што пацею. Дастаў з кішэні пачку „любчыкаў" і пачаставаў імі ўсіх. Усё ішло вельмі добра, Бяроза расказаў анекдот і нашы новыя сяброўкі пахіхікаліся. Калі стукнуліся шкляначкамі „замбарарэзу", кажу Бярозе, што мушу завесці з імі бліжэйшае знаёмства дзеля высвятлення лінгвістычных маіх пытанняў. А пайшоў ты *нахер*, кажа мне, ці не чуў ты пра такую невылечную хваробу як... Тут мне ўспомнілася, што любагорскія газеты сапраўды нешта пісалі пра адну дзіўную хваробу, якая хутчэй за ўсё ўзнікла ў Замбара. Прывезлі яе ў Любагорск, праўдападобна, празмерна руплівыя прапаведнікі ААП. А ейнае імя Ф.А.Л.І.Ч.Н.Ы.З.А.К.В.А.С... Так і не пазнаёміўся я бліжэй з карэннай замбаран. І я, і Артадокс Бяроза дыпламатычна далі ходу ад бабаў, што ведалі карэнную замбаран. Па дарозе зароіўся нам Арыстоцель Ванько. „Трэба было, хлопцы, засунуць ім у дупу".

Канферэнцыя „Моўныя аспекты перакладу першага тома Агульна Абавязваючых Прынцыпаў Любагорска на трэйшан" закончылася ціхім скандалам. Рассвярыў усіх адзін смуглявы філолаг з „Замбаран Трэйш Юніверсіці". Ужо на пачатку нарадаў стаў даказваць, што слова *агульны* ў перакладзе на трэйшан (паводле майго зонаўскага выдання „Праксіс ё трэйш": *джэнераль*) трэба ўсё-такі пісаць не з адным, а з двума мяккімі знакамі. У абліччы гэтай дылемы Камісія перакладу ААП рассыпалася. Яе ўдзельнікаў не пагадзіў нават Апалон Дзванко з Зоны — прафесійны ўдзельнік усякіх канферэнцый ды вялікі спецыяліст у пытаннях гісторыі ААП...




*МІРА ЛУКША*

**айчына**

не прызямліцца бязногаму птаху
на жывой незагойнай вечнай ране
і толькі пяць крычыць
салёнае вады пяць просіць

**хвіля**

крык ненароджаных слоў
у ненароджаным часе
у пакінутым месце
што яшчэ не ўзнікла

і мяне няма
можа ўжо іду
крокамі без ног
голасам без слоў

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Маёй дачцэ, якая знаходзіцца за граніцай, прысніўся цікавы сон, але ці ён хаця нічога дрэннага не прадвяшчае? Нейкая жанчына сказала ёй, што гэты сон дрэнны. Дык дачка нават пазваніла мне і просіць, каб я ў гэтай справе звярнулася да цябе. Ты ж нам не адзін раз сны разгадваў, ды вельмі трапна. Разгледзь і цяпер!

Дачцэ снілася, быццам выйшла яна з хаты. На двары кругом снег, бела-бела. Прыгожа, ясна. Ідзе яна па гэтым снезе і бачыць крыху лёду. Падыходзіць бліжэй, глядзіць — а там пад лёдам двое дзяцей тварыкамі ўверх ляжаць. Дачка прыгледзелася лепш і ўбачыла, што яны дыхаюць. Відаць было гэта па іх тварах. Тады дачка разбіла лёд. Выцягнула тых дзяцей і бягом з імі ў бальніцу. Але бачыць — едзе хуткая дапамога. Яна затрымоўвае яе, аддае дзяцей. Адчувае вялікую радасць, спакой, што выратавала іх.

**ВЕРА**

Вера! Сон тваёй дачкі прадвяшчае ёй спакой і задавальненне, хаця... не абыдзецца без нейкіх затрудненняў. Цяжкасці будуць звязаны, бадай, з дзецьмі.

Снег наогул абазначае поспех, ураджай, прыбытак, дасканалае здароўе — адным словам, усё добрае. Таксама і дзеці — радасць і прыбытак. Але тыя дзеткі былі, на жаль, пад лёдам, а лёд абазначае нейкую страту і няўдачу.

Я так мяркую, што ўсё будзе па яе думцы, але будуць усё ж перашкоды. Са сну тваёй дачкі вынікае, што яна гэтыя перашкоды пераможа. Выцягнула ж дзеткі з-пад лёду і аддала іх у надзейныя рукі.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ВАЛАГОДСКІ ПАШТЭТ

Прадукты для фаршу:
*паўшклянкі рысу,*
*паўкілаграма баравікоў,*
*2 сярэднія цыбуліны,*
*шмалец ці алей,*
*соль і перац па смаку,*
*4 чайныя лыжачкі сухога чаю.*

Прадукты для цеста:
*паўкілаграма мукі,*
*шклянка смятаны,*
*2 яйкі.*

Рыс зварыць не да канца, так, каб быў цвердаваты. У пасоленай вадзе зварыць памытыя і ачышчаныя грыбы. Цыбулю пасячы як мага драбней, падсмажыць на тлушчы. Звараныя грыбы пасячы, перамяшаць з адцэджаным рысам і цыбуляй, заправіць па смаку.

Замясіць крухкае цеста і палажыць яго на паўгадзіны ў халадзільнік. Раскатаць яго не надта тонка. Палажыць цеста ў формачку, на бакі — таксама, напоўніць фаршам. Заліць паштэт шклянкай моцнага, заваранага на 4-х лыжачках, працэджанага чаю.

Запякаць паштэт у гарачай духоўцы (220°С) на працягу 30—40 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**

*Легенды, легенды*

## АДКУЛЬ НАЗВА ВЁСКІ МЕЛЯШКІ

На поўнач ад верхняга цячэння Нарвы, недалёка ад вытокаў Супраслі, у маляўнічай ваколіцы знаходзіцца вёска Меляшкі, што ў Гарадоцкай гміне.

На ўсход ад яе распалажана ўзвышша, з якога вылучаюцца дзве даволі высокія гары, вышынёй у 200 метраў над узроўнем мора. Паўночная з іх называецца „Могілкі", паўднёвая — „Канчанскія Могілкі".

Названыя горы звязаны з легендай, якая гаворыць, што за імі знаходзілася даволі вялікае паселішча. Жыхары яго вымерлі ад эпідэміі. Застаўся толькі адзін чалавек па прозвішчы Мялешка. Каб ратавацца ад смерці, вырашыў ён пакінуць родную вёску і пайшоў праз горы на захад. Калі дайшоў да даліны ракі Супраслі, настала ноч і ён заначаваў у наспех зробленым шалашы. Гэта мясціна яму спадабалася і ён рашыў тут пасяліцца. Ад яго прозвішча пайшла назва гэтай немалой вёскі Меляшкі.

Крыху пазней з'явіліся тут наступныя пасяленцы: Дарашкевічы, Лавіцкія, Карповічы, Казлы, Кастэнцікі і Марцінчыкі. У вёсцы Меляшкі і яе наваколлі пражывае выключна беларускае насельніцтва, якое гаворыць на паўночна-заходнім беларускім дыялекце.

**Янка Ляўкоўскі**

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33—36, 38 н-рах)*

**8**

Прапануем пяць чарговых прыпевак, якія запамятала Надзея Руско з Белавежы.

**16**

Як ні бачу Патруся,
то ад ветру валюса.
Як угледжу Патруся,
танцаваці баруса.
Ой, бо што ж то за Патрусь,
белаліцы, чорны ус.

**17**

Каціласо калесо,
каціласо ясно.
Ой, дапраўды на мане
гаворат напрасно.

**18**

Ой, паеду, ой, пайду
да свае каханкі.
А ў мае каханкі
смаленые лаўкі.
А як сеў — прыкіпеў,
вачэраці не схацеў.

**19**

Ой, пайду я, пайду
на гару крутую,
чы ні едзе, чы ні ідзе
сэрдэнятко мае.
Ой, вон ідзе, вон ідзе,
ступае драбненько.
Белаліцы, чорнабровы,
гэто мой Яненько.

**20**

Ты мане ні хочэш,
ты мане ні любіш.
А коб ты тады жаніўса,
як у млыні, на камені куколь урадзіўса.

Запісаў **ПЁТР БАЙКО**

## З гараскопа друідаў

**КЛЁН** *(11—20 красавіка і 14—23 кастрычніка).* Драўніна клёна цвёрдая, трывалая, але з яе даўней выраблялі дзіды (коп'і), цяпер жа — дэталі музычных інструментаў, мэблю. Клён цвіце вельмі рана, яшчэ да распускання лістоў, і лічыцца добрым меданосам, але садзяць яго ў нас выключна для аздобы. Людзі, якія нарадзіліся пад „знакам" клёна — разважныя, турбуюцца пра свой знешні выгляд, любяць бываць там, дзе найцікавей, дзе бываць прэстыжна, модна. Клёны не належаць да звычайных, „сярэдніх" людзей: поўныя энергіі, моцы і вынослівасці, яны могуць супрацьстаяць усім і ўсяму. Яны — індывідуалісты, нават самалюбы, і хоць адносна нясмелыя, могуць рашыцца на дзёрзкія ўчынкі, але не з-за матэрыяльных выгод ці карысці, а з-за цікаўнасці. Такія людзі любяць быць наперадзе, маюць шмат цікавых помыслаў, але рэдка калі могуць выканаць іх уласнымі намаганнямі. Клёну дастаткова, каб аб ім гаварылі, нават калі і выказваюць непрыхільныя меркаванні. Не трэба баяцца, каб выпадкова не выказаць у прысутнасці клёна патаемныя думкі, бо ён не мае звычаю абмяркоўваць чужыя намеры, пачынанні і ніколі не ўспамінае пра іх. У каханні такія людзі паводзяць сябе неардынарна, любяць хадзіць непрадбачанымі шляхамі. Клёны маюць ясны і праніклівы розум, развітую інтуіцыю, пачуццё гумару.

*(працяг у наступным нумары)*

### ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Хто ваюе з палявымі шкоднікамі**

Перш за ўсё жабы. Так, жабы — яны з'ядаюць мноства слімакоў, машкары і т.п. Жаба не есць раслін.

Трэба падкрэсліць, што жабы з'ядаюць тых чарвякоў, мушак, якіх не любіць птаства. Жаба разам з птушкай — найбольшы прыяцель нашых агародаў, палёў. Напрыклад, у Заходняй Еўропе садаводы спецыяльна купляюць жаб і пускаюць іх у свае агароды ці на палеткі.

Шмат карысці даюць таксама вужы-змеі, якія з'ядаюць мноства мышэй і іншых дробных шкоднікаў.

А чмель — гэты страшны малым дзецям чмель? Якую ён дае карысць? Хто ведае, ці мелі б мы чырвоную канюшыну, каб не чмялі? Бо гэта яны апыляюць цвет чырвонай канюшыны, карыснай у гаспадарцы расліны.

Хто ж з нас не бачыў, як мошка знішчае буракі ці слівы. Найстрашнейшым ворагам мошкі з'яўляецца божая кароўка.

Ну, і вядома, заўзята паядаюць розных чарвякоў, матылёў і мух птушкі. Найболей карыснымі з'яўляюцца сініцы, шчыглы і шпакі. Без іх помачы мізэрнымі былі б нашыя агароды. Варта стаўляць шпакоўні для шпакоў, бо ад іх больш карысці, чым шкоды.

**ЯСЕНЬ**

## КРЫЖАВАНКА




**Гарызантальна:** 3. сход калектыву, 8. малое дакучлівае насякомае, 9. пункт арбіты спутніка найбольш аддалены ад Зямлі, 10. баязлівец, 11. маральная годнасць, 13. венгерскае мужское імя, 15. каток, 16. высокая балотная трава, 20. дэталь, якая накладваецца, 22. мангольскі імператар (1336—1405), 23. рака на Беласточчыне, 27. даследчык Арктыкі або Антарктыкі, 29. сцёблы пасля абмалоту, 30. фантастычнае апавяданне, 31. расліна сямейства гарбузовых, 32. дзіця без бацькоў, 33. асілак, 34. багіня перамогі ў старажытных грэкаў.

**Вертыкальна:** 1. тоўстае бервяно, 2. белая пажыўная вадкасць, 4. правы прыток Дняпра, 5. французскі паэт (1639—99), 6. чарцёж зямной паверхні, 7. зямля над вадою, 12. вялікі галандскі порт, 14. вучань, 16. горад у Забайкаллі, 17. паралелаграм з роўнымі бакамі, 18. моцны штуршок, 19. жыллё барсука, 21. мужчынскае імя, 24. наёмны работнік у панскім маёнтку, 25. адрэзак прамой з напрамкам, 26. хімічны элемент н-р 19, 27. выбуховае рэчыва, 28. пахучая смала.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 32 н-ра:** навука, Усвяты, Ядвіга, Іркуцк, Аравія, Італія, сціркa, кітаец, Аляска, сілуэт, упадак.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

## Іванка-ўстанька

Дзед Іван уставаў рана, з сонцам і пташкамі пастаянна. Восемдзесят пяць гадоў яму мінула. Калі ж гэта так хутка прамільгнула? Рабацяшчы ён быў, касою касіў, канём араў, у лесе дрэвы спускаў, дамы людзям будаваў, ва ўсёй аколіцы пасля вайны ўдовам дапамагаў, перад меліярацыяй пры дарогах і лугах равы капаў... Ён сёння яшчэ ўнукам дапамагае, і праўнучкаў аж дзевяцёра мае. Шчырую праўду вам кажу, сёння пра Івана напісаць хачу. Калісь праўнукі будуць у „Ніве" чытаць, свайго прадзеда добрым словам успамінаць.

Іван з сонцам устае і лягае, і сваёй натуры не мяняе, толькі што цяпер, бывае, у дзень крышку адпачывае. А праўнучак Кандрат так яго пытае: „Чаму, дзедку, так памаленьку ступаеш?" І хоць сама ўжо я старая і слабая, свайго бацькі не пакіну, пакуль я жывая.

**ІДА**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраноўіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## РЭПЛІКІ

* * *

— Працавала яна,
Як мурашка маладая.
— Ды й куслівая, аднак,
Як мурашачка рудая.

* * *

— Доля хлопчыка песціць,
Калі ён — як той песцік:
Ля яго ўсе дзяўчынкі —
Быццам тыя тычынкі!

* * *

— Востра вуха трымаў —
На цябе вока меў,
Ды прызнацца язык
Павярнуцца не смеў...

— А здавалася мне:
Задзіраеш нос ты.
На цябе я даўно
Мела зуб... залаты!

**Станіслаў Валодзька**

## СЕНТЭНЦЫІ

Спякотны дзень шалясціць сонцам.

* * *

Адсутнасць адвагі праўду хавае.

* * *

Добрая ноч — грэшная ноч.

* * *

Прастора неба ў крылах ластаўкі.

* * *

Паламаны лёс — плата наперад за нявіннасць.

**Барыс Руско**

## НА КРЫЖЫ СУПРАЦЬСТАЯННЯ

Распяты на крыжы
гісторыі народ —
Такая незайздросная пазіцыя.
Урад арыентуе Беларусь:
— На Усход!
— На Захад! —
мітынгуе апазіцыя.
Народ! Якім жа будзе выбар
сёння твой?
Хто знойдзе ў заўтра выйсце
эпахальнае:
Той, хто крычыць мацней,
ці, можа, той,
Хто скажа ціха слова геніяльнае?

**Аляксандр Попель**




Мал. Я. Бусла






Мал. А. Папова

## ПАСЛЯ ГАСЦЕЙ

Муж з жонкаю гулялі ў гасцях у суседзяў. Муж харахорыўся, падкрэслена не заўважаў жонку, запрашаў адну кабету за другой, кожнай падміргваў, адну маладзіцу шчыпануў, другую ўвагнаў у чырвань шэптам на вушка. Разышоўся — спыніцца не можа.

Дахаты яны вярнуліся позна. Пакуль жонка касметыку ды завушніцы зняла, муж ужо ў ложку ляжыць ды ўслых разважае:

— Пашанцавала табе, Галя! Якога мужыка сабе адхапіла... Бачыла, як сёння бабы хапалі, адбіцца не мог. А ты так і прасядзела ў куточку. Ніхто на цябе і не глянуў. Мне нават непрыемна было. Танцую з якой і думаю: мая дурніца нікому, акрамя мяне, не патрэбна...

Жонка ад нечаканасці аж начную кашулю навыварат адзела. Хацела адразу абурыцца, але своечасова стрымалася, прысела на ложак і, наўмысна ласкава гладзячы мужа па галаве, папрасіла:

— Устань, Васілёк, не лянуйся, не пашкадуеш. Схадзі за хлеў, глянь, можа, што за агародамі ўбачыш цікавае. Устань.

У мужа аж вочы заблішчэлі ад такой прапановы. Што ён спадзяваўся ўбачыць, невядома, але хуценька ўскочыў, апрануўся і подбегам папёр да хлява. Праз хвілін пяць вярнуўся злы:

— Жартачкі ў цябе... Дарэмна сцягаўся. Нічога там няма. Хіба што паўдурак нейкі за плотам курыць.

— Ну вось бачыш! — пераможна заўсміхалася жонка. — А кажаш, дарэмна. Гэта я з прыездзжым, што ў гасцях на акардэоне граў, на спатканне дамовілася. Так, дзеля смеху, а ён, бач, чакае, курыць.

Хмяліцца назаўтра, як заведзена на вёсцы, яны не пайшлі. Муж не захацеў:

— Няма чаго па гасцях блытацца, вунь у хаце работы па горла!

**Ганна Чакур**

МІЖ НАМІ

## СВАРКА

— Юзік з Іванам сварыліся кожны дзень.

— За што ж?

— Вось Юзік казаў, што Іван Вялікадня не дачакае. Іван скочыў да Юзіка з кулакамі: „Адкуль жа табе ведаць, што я Вялікадня не дачакаю!? Гэта можа ты не дачакаеш! Бач ты які! Смерці мне жадаеш?!" „А я табе кажу, не дачакаеш!" — спакойна адказаў яму Юзік. Урэшце вытлумачыў, у чым справа: „Дурны ты, Іване! Ніхто ўсіх Вялікадняў не дачакае, і ты, і я. Нас не было, а свята было. Мы ёсць, свята ёсць. Нас не будзе, свята будзе".

— А, вось за такія філасофіі сварка была!

* * *

— Мае куры добра нясуцца, бо даю ім ячмень, — кажа Валя.

— А мае куры ячменю не ядуць, а нясуцца так сабе, — не сказаць, каб добра, — сцвярджае Коля.

— Як гэта так — твае куры ячменю не ядуць? Усе ж куры ад ячменю не адмаўляюцца! Ну, лухту ты мелеш!

— Ну, не даю ім ячменю, то і не ядуць.

**Аўрора**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Поўнач.

— Каханы, купіш мне футра? — пытае жонка мужа.

— Куплю, куплю...

— Ох, як я цешуся...

— Няма з чаго.

— Чаму?

— Бо я гавару праз сон.

* * *

— Дарагая, — гаворыць заспаным голасам муж, — выключы тэлевізар, запалі святло і падай мне чай.

— Гэта немагчыма, мы ў кіно.

* * *

Сямейная сварка:

— Маю надзею, што ў раю жанчыны будуць аддзелены ад мужчын! — крычыць жонка.

— Я таксама, — адказвае муж, — інакш, гэта не быў бы рай.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Знаеш, найпрыгажэйшыя хвіліны майго жыцця звязаны з тэатрам.

— Любіш хадзіць у тэатр?

— Я не, мая жонка любіць.

* * *

Прыехаў у санаторыю муж адведаць жонку. Захацелася ім палюбіцца і пайшлі ў кусты. Там накрыў іх паліцыянт:

— Вы, мужчына, плаціце 100 тысяч злотых штрафу, а ваша дама — 500 тысяч.

— А чаму гэта так? З мяне 100 тысяч, а з маёй жонкі, якую я адведаў, 500 тысяч?

— Калі я вас злаўлю ў пяты раз на лайдацтве ў гэтым месяцы, дык таксама аштрафую на 500 тысяч.

* * *

— Адкрый дзверы, каханая.

— Не магу, я раздзетая.

— Нічога, я адзін.

— Але я не.

* * *

Муж да жонкі:

— Што гэта такое?! Знайшоў я ў тваёй сумцы ліст з матрыманіяльнага бюро, у якім паведамляюць, што прышоў адказ на тваю прапанову!

— Не гневайся, дарагі, гэта было даўно і неактуальна...

— Як гэта даўно?! Паштовы штамп пастаўлены месяц таму!

— Ах, так! Тады ты быў такі хворы...

* * *

Паміраючы муж гаворыць жонцы:

— Абяцай мне толькі, дарагая, што не выйдзеш замуж за таго Кавальскага, праз якога я быў раўнівы ўсё жыццё.

— Будзь спакойны, даражэнькі, я абяцала іншаму...

* * *

У вёсцы памерла жанчына, якую ўдарыў конь. Пасля пахавання пытаюць мужа:

— Ну і як там, многа прыйшло лістоў са спачуваннямі?

— Толькі адзін. Прыйшло затое трыццаць лістоў з просьбаю, каб пазычыць гэтага каня.

Запісаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Дарагое Сэрцайка! Маю сяброўку кінуў муж. Божа мой, што ж гэта было за каханне! Засталася адна, з дваімі малымі дзеткамі, адзінокая, хаця жыве ў адным пад'ездзе з бацькамі, якія заняліся дзецьмі. Але дзякуючы таму, што якраз з дзецьмі няма ў яе праблем, можа хоць неяк часцей сустрэцца з людзьмі, ды крыху развеяць свой смутак.

Былі яе імяніны. Каго б тут запрасіць, меркавала яна. Калі адышоў муж, дык і супольныя іх сябры неяк быццам бы адвярнуліся. Я дык думаю, што яны больш сустракаюцца з яе мужам і яго новай жонкай. Цяжка ж дзэйнічаць на двух франтах. Ну, а яе сяброўкі засталіся.

І вось папрасіла яна мяне, а ў вачах яе быў такі смутак, каб я прывяла з сабою нейкага хлопца. Яна ведала, што я ў даны момант ні з кім не хаджу. Дык і я зразумела, што магу ўзяць любога са сваіх калег — больш для яе, чым для сябе.

Доўга не думала, каго запрасіць. Зайшла ў нашую студэнцкую кавярню, а там быў усяго адзін мой добры калега. Кажу: „Хочаш ісці са мной на імяніны да Галі?!" Хацеў, і мы пайшлі.

На імянінах было даволі гучна і весела. Усе амаль былі парамі, а нават і я, хаця я, ён і тая сяброўка толькі ведалі, што ніякая ён мне не пара. Аднак жа было перад іншымі неяк прыгажэй, што і я не адна.

Галя часу не траціла. Закруцілася хутка вакол гэтага калегі. Размаўляла з ім, пасля танцавалі. І з часам я ўжо засталася неяк збоку, адчувала сябе ўжо непатрэбнай. Мне стала крыўдна. Усё ж такі я думала, што пакуль суд ды справа, усе будзем гуляць разам. Але дзе там! Усе гулялі са сваімі партнёрамі, а я сядзела адна і ніхто нават не падумаў, каб запрасіць мяне.

Хутка мне ўжо стала так сумна, што я вырашыла ісці дахаты. Але ніхто нават не крануўся з месца, каб правесці мяне апоўначы да таксі. Я ўстала і адзюсенькая выйшла з чужога блёка сярод ночы.

Крыўда душыла мяне. Мне не шкада было таго хлопца: дзеля сяброўкі я ж і прывяла яго. Але прыкра мне было, што, калі мая сяброўка атрымала ўжо ад мяне таго хлопца, дык я ёй перастала быць патрэбнай. Патрактавала яна мяне, як нейкае смецце. Зрэшты, хлопец гэты затрымаўся ў яе тады да раніцы і стаў яе афіцыйным кавалерам. Да мяне сяброўка ўжо больш не прыходзіць і не звоніць.

Сэрцайка! Скажы, калі ласка, ці яна павінна была так зрабіць? Ці нават ужо не з удзячнасці, а з нейкага абавязку не магла яна як гаспадыня папрасіць аднаго ці двух гасцей, каб мяне правялі і пасадзілі ў таксоўку?

**Ленка**

Ленка! Гэта, вядома, быў абавязак гаспадыні, але і сябра не без віны. Хаця ён і толькі твой калега, але ж мужчына, а да таго прыйшоў на імяніны з табой, дык павінен быў цябе правесці. Пачуцці тут ні пры чым. Хіба што пачуццё абавязку.

А можа, закахаліся яны ад першага позірку і забыліся пра ўсё на свеце... Кінутыя жанчыны, хаця рэдка, бываюць гарачыя...

**СЭРЦАЙКА**